



# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

25 жніўня 2017 года №34 (1165)


# За сувязь з непаўнагадовай жыхару Вілейшчыны пагражае тэрмін

старонка 4

Фота zanews.ru.

## Жыхарка Віленскай: "Я, калі выходзіла ў двор, пужалася да смерці"

старонка 8

## "Гэта адзіны мужчына, які вытрымаў мяне сем гадоў"

старонка 17

## Штогадовы медагляд – у месяц нараджэння дзіцяці, а не перад школай

старонка 21

НАВІНЫ

## Пачатак навучальнага года адзначаць святам

МЯДЗЕЛ

Для ўсіх школьнікаў Мядзельскага раёна 26 жніўня ў Мядзеле пройдзе свята "Добры дзень, школьная пара!" на плошчы Шаранговіча ад 14 да 17 гадзін.

У праграме: інтэрактыўныя пляцоўкі, дзіцячае кафэ, канцэртная праграма з удзелам творчай моладзі Мядзельшчыны і не толькі, танцы, конкурсы.

Паводле сайта Мядзельскага райвыканкама.

## Атрымалі дыпломы на конкурсе ткацтва

ВІЛЕЙКА

19 жніўня ў Старых Дарогах ладзілі абласны конкурс па ткацтву "Матчыны кросны".

Вілейшчыну прадстаўлялі майстар Вілейскага дома рамёстваў **Святлана Лучнікоўская** і яе дачка **Паліна**.

У вілейскім райвыканкаме распавялі, што Святлана Лучнікоўская атрымала дыплом другой ступені за высокае прафесійнае майстэрства і за лепшы тканы пояс на дошчачках.

А яе дачку Паліну ўзнагародзілі дыпломам за творчы ўнёсак у развіццё традыцыйнай культуры паясоў і актыўны ўдзел у конкурсе.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Польскія турысты наведалі Валожыншчыну

ВАЛОЖЫН

Аўтатурысты з Беластока, Лодзі, Варшавы, Познані наведалі Валожынскі раён у сярэдзіне жніўня.

Трыццаць чалавек, у тым ліку і дзеці, у Беларусі былі не першы раз і паспелі пазнаёміцца з яе славутымі мясцінамі і гістарычнымі аб'ектамі.

Сёлета група вырашыла наведаць Налібоцкую пушчу, каталіцкія святыні Валожынскага раёна, а таксама Вішнева і Ашмяны.

Аддзел інфармацыі.

## Ля сцен замка зладзілі свята

СМАРГОНЬ

19 жніўня свята "Пад знакам Лялівы" пачалі з тэатралізаванай дзеі "Цені Крэўскага замка".

У рамках свята адбыўся фестываль "Кераміка Крэва". Майстры-керамісты прыехалі з розных рэгіёнаў Беларусі.

Працавала дзіцячая пляцоўка, выстава-продаж. Гістарычныя клубы зладзілі паказальныя выступы.

Завяршылася мерапрыемства вогненным шоу, распавялі ў Смаргонскім райвыканкаме.

Аддзел інфармацыі.

## Уключыце фары ці падрыхтуйце 46 рублёў

Ад 25 жніўня пачынаецца акцыя ДАІ "Увага, дзеці!"

Да 5 верасня ўключна вадзіцелям неабходна ў светлы час сутак ездзіць з уключаным святлом фар.

За парушэнне патрабаванняў п.166.9 правілаў дарожнага руху у адносінах да вадзіцеляў ужываецца адміністрацыйнае спагнанне ў адпаведнасці з артыкулам 18.14 КаАП Рэспублікі Беларусь, які прадугледжвае штраф да 2 базавых велічынь.

З пачатку года на тэрыторыі Мінскай вобласці зарэгістравалі 32 ДТЗ з удзелам непаўналетніх, у выніку якіх 2-е дзяцей загінулі і 34 дзіцяці траўмаваныя.

На тэрыторыі Маладзечанскага раёна з пачатку года з удзелам непаўналетніх зарэгістравана 1 ДТЗ, у якім адно дзіця-пешаход атрымала траўмы рознай ступені цяжкасці.

Аддзел інфармацыі.

## Правядуць прамую лінію з намеснікам міністра сувязі

АШМЯНЫ

25 жніўня ад 12:00 да 13:00 у Ашмянскім раённым вузле сувязі зладзяць прыём грамадзян з правядзеннем "прамой лініі" з намеснікам міністра сувязі і інфарматызацыі **Ганнай Рабавай**.

Папярэдні запіс па тэлефоне **8 (01593) 75617**. "Прамая" тэлефонная лінія **8(01593) 75672.**

Аддзел інфармацыі.

## Конкурс вальшчыкаў лесу зладзілі на Астравеччыне

АСТРАВЕЦ

22 жніўня ў Палушанскім лясніцтве сабраліся лепшыя вальшчыкі лясгасаў са Смаргоні і Астраўца, каб пазмагацца ў майстэрстве і высветліць, хто будзе абараняць гонар Астравеччыны на вобласці.

Канкурсанты традыцыйна спаборнічалі ў конкурсах валкі лесу, зборкі-разборкі пілы, распілоўкі – прамой і камбінаванай, абрэзцы сукоў.

Паводле "Астравецкай праўды."

# Маладзечанец хоча, каб танцпол у парку стаў лепшым

МАЛАДЗЕЧНА

**– Я вельмі люблю танцы ў нашым парку, – пачаў свой расповяд мужчына сталага веку, што нядаўна прыйшоў у рэдакцыю.**




Гарадскі парк. Кастрычнік, 2014. На дыскатэку прыходзяць і дзеля танцаў, і дзеля зносін.

Жыхар Маладзечна **Пётр А.** расказаў, што яму падабаецца гарадскі парк, яго добраўпарадкаванне і тыя мерапрыемствы, што тут ладзяць для пенсіянераў. Аднак, на думку мужчыны, наш парк можна можна і трэба зрабіць яшчэ лепшым.

– Я – былы работнік энерганагляду, – кажа Пётр А., таму адразу заўважаю, дзе што не так.

### Танчым так, што падымаецца пыл

Па словах майго субяседніка, традыцыйныя танцы для сталых людзей у парку ладзяць на пляцоўцы, дзе раней дзеці каталіся на машынках. На танцах ёсць вядучы, у якога можна замовіць любімую песню або папрасіць павіншаваць кагосьці са знаёмых наведнікаў з Днём нараджэння.

Аднак ад былога дзіцячага аўтадрома на пляцоўцы засталася бетонная падлога. І гэта непакоіць майго субяседніка.

Наведнікі "дыскатэкі" так танчуць, што падымаецца бетонны пыл. А гэта, на думку Пятра А., шкодна для арганізма танцораў.

Засмучае яго і тое, што пляцоўка абгароджаная сеткай, часта здараюцца скразнякі. Наведнікі танцаў ад гэтага хвараюць на прастуды.

Пётр А. не раз падымаў пытанне пра тое, каб памянялі падлогу на танцполе і добра з усіх бакоў абгарадзілі пляцоўку. Аднак пакуль вынікаў няма.

### Дырэктар парка: усім танцы падабаюцца. Незадаволены адзін чалавек

Мы звязнуліся за каментарыем да дырэктара гарадскога парку **Аляксандра Фалея.**

– На танцах "Для тых, каму за" ўсім усё падабаецца, – сказаў Аляксандр Фалей.

Такія танцы, а дакладней, вечары адпачынку "Для тых, хто малады душой", звычайна ладзяць ад 1 мая і да восені. Улічваюць умовы надвор'я.

Сярэдні ўзрост наведнікаў ад 55 да 60 гадоў. Аднак ёсць і такія танцоры, каму за 80.

Па словах Аляксандра Фалея, усе наведнікі, акрамя Пятра А., задаволеныя вечарамі адпачынку для сталых людзей.

Кіраўніцтва парку ідзе насустрач пенсіянерам. Робіць гэта проста ў знак павагі да сталых людзей.

І танцы, пра якія ідзе гаворка па шматлікіх просьбах, падзяліўся Аляксандр Фалей, у парку праводзяць ва ўрон сабе.

Білет туды каштуе 1 рубель 50 капеек. І па словах Аляксандра, ніхто асабліва не хоча гэтым займацца.

Пётр А., кажа дырэктар парка, скардзіцца ўжо чатыры гады. Пры гэтым астатнія наведнікі ўсім задаволеныя.

– Я не вытрымаў скаргаў гэтага чалавека, – дзяліцца Аляксандр. – Ужо не хапае здароўя і нерваў.

Таму цяпер вечары адпачынку ў парку праводзіць Цэнтральная клубная сістэма Маладзечна.

Ад верасня танцы для сталых людзей будуць ладзіць у Палацы культуры чыгуначнікаў.

Магчыма, там танцорам будзе больш зручна.

Аксана ЯРАШОНАК.

# Вілейка далучылася да чарговай экалагічнай ініцыятывы

ВІЛЕЙКА

**Кампанію ладзяць штогод ад 16 па 22 верасня, падтрымаць меры ў галіне ўстойлівага транспарту, а таксама заахвоціць людзей паспрабаваць розныя альтэрнатывы аўтамабілю.**

Напрыканцы тыдня правядуць акцыю Дзень без майго аўтамабіля.

Ад 2002 года, кампанію пачалі ў Еўропе. У 2016 годзе зафіксавалі рэкордную колькасць удзельнікаў – 2427 гарадоў з 51 краіны свету, у тым ліку 12 гарадоў з Беларусі.

Праграмы і анлайн-платформы, дапамагаюць зрабіць мабільнасць больш эфектыўнай, эканоміць сродкі і ўнесці сваю лепту ў ахову навакольнага асяроддзя.

Даследаванні дэманструюць, што сумесная мабільнасць можа мець станоўчы ўплыў на гарады. Напрыклад, сумеснае карыстанне адным аўтамабілем дазваляе прыбраць з дарогі прыкладна 15 легкавых машын.

Сумесныя схемы дазваляюць нам лягчэй спалучаць розныя транспартныя сродкі, кажуць арганізатары. Весці машыну, ехаць на роварах, карыстацца грамадскім транспартам – усё магчыма, калі мы робім гэта разам.

Вы вырашалі паехаць на працу разам са сваімі суседзямі на ровары, вы заахвочваеце сваіх супрацоўнікаў выкарыстоўваць грамадскі транспарт, значыць вы імкнецеся да "зялёнай" мабільнасці – гэта значыць думаце пра свой горад, пра чыстае паветра ў ім, нізкі ўзровень шуму, больш спакойныя вуліцы.

На працягу тыдня грамадскія актывісты і прадстаўнікі ўлады, ДАІ і іншыя спецыялісты будуць працаваць над праграмай мерапрыемстваў у рамках Еўрапескага тыдня мабільнасці.

Аксана ЯРАШОНАК.

# Школьную форму раздалі амаль усю:

## як прайшоў трэці фрымаркет у Вілейцы

ВІЛЕЙКА

**– Пра фрымаркет даведаліся з інтэрнэту. Сёння прыйшла, штаноў сваім хлопчыкам набрала, – дзеліцца ўражаннямі адна з першых наведвальніц фрымаркета ў Вілейцы, мама Таццяна Похіл.**



Фота Аксаны ЯРАШОНАК

Віляйчанка Юлія выбрала адзенне для сына.

Сыну віляйчанкі **Юліі Чарняўскай** да школы яшчэ далёка. Аднак нешта з адзення на фрымаркеце змагла выбраць і яна.

### Прапаноўвалі адзенне для школьнікаў і дашкольнікаў

Трэці фрымаркет у Вілейцы задумваўся, перш за ўсё, як школьны. Аднак неабыякавыя гараджане прынеслі не толькі школьнае адзенне. Была і паўсядзённая вопратка, і кашулькі-штонікі для дашкольнікаў.

Верхняй вопраткі ў гэты раз практычна не было. Як не было і школьных заплечнікаў.

Фрымаркет ладзілі ў трэці раз. Аднак, як і два папярэднія разы, асаблівай актыўнасці з боку гараджан не было. Дакладней, прыносілі больш актыўна, чым забіралі.

Бясплатны кірмаш ладзілі ў вілейскім Цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі. За пару тыдняў да фрымаркету тут паставілі скрыню для рэчаў.

Па словах супрацоўнікаў Цэнтра, скрыня напаўнялася паступова. доўгі час адзення было нямнога. А напярэдадні кірмашу рэчы ўжо ледзь змяшчаліся туды.

– Вялікую рэкламу ў гэты раз мы не давалі, – кажа арганізатар фрымаркету, шматдзетная мама з Вілейкі **Ірына Трубач.**

Звычайна жанчына раскідае інфармацыю пра фрымаркет па суполках у сацсетках. Цяпер не было часу гэтым займацца.

Магчыма, адсутнасць шырокай рэкламы тлумачыцца невысокая актыўнасць віляйчан у бясплатным кірмашы. А магчыма і іншым.

– Мы, жыхары правінцыйнага горада, – дзеліцца Ірына. – Многія лічаць, што для дзіцяці патрэбнае ўсё самае лепшае, таму і не ідуць на фрымаркет. Напрыклад, некаторыя з нашых знаёмых ведаюць пра бясплатны кірмаш, аднак чамусьці не прыходзяць сюды.

І гэта, на думку Ірыны, крыху дзіўна. Яна і яе сям'я лічаць, што ў сённяшняй эканамічнай сітуацыі лепш патраціць грошы на забавы, кнігі, сумесны сямейны адпачынак, развіццё дзіцяці. А на адзенні можна крыху зэканоміць. Тым больш, фрымаркет дае такую магчымасць.

### Сарафаны, блузкі, пінжакі: усё, каб апрануць школьніка

Для дзяўчынак-школьніц былі блузкі, штаны, сарафаны, спадніцы, джэмперы. Для хлопчыкаў – пінжакі, кашулі, штаны.

У крамах адзення школьны сарафан каштуе ад 30 да 50 рублёў, блузка – ад 15 да 30. Такім чынам, магчымасць эканоміі сапраўды была.

Арганізатары фрымаркету гутарылі з загадчыцамі вілейскіх крам, дзе прадаюць школьнае адзенне.

Па словах прадаўцоў, зборы ў школу сёлета адбываюцца куды менш актыўна, чым мінулым летам. Таму пасіўнасць віляйчан да фрымаркету вельмі здзіўляе арганізатараў.

**У суботу ў Цэнтр дадатковай адукацыі за бясплатным адзеннем прыйшло 12 чалавек. Гэта вельмі мала для 30-тысячнага горада, перакананая Ірына Трубач.**

Улічваючы цэны ў крамах і на школьных кірмашах, можна меркаваць, што тыя віляйчане, якія прыйшлі на фрымаркет, па 30-60 рублёў зэканомілі.

### Хапіла і наведнікам, і выхаванцам прытулку

За тры гадзіны раздалі прыкладна дзве трэці адзення. Школьную форму разабралі амаль усю.

Рэчы, якія не забралі, арганізатары аддалі ў сацыяльны прытулак у Шылавічах. Тут апякуюцца над сем'ямі, якім неабходная дапамога. І па словах Ірыны Трубач, усё што прывозяць пасля фрымаркету, разыходзіцца вельмі добра.

Ірына спадзяецца, што ў Вілейцы знойдуцца людзі, здольныя падтрымаць гэтую патрэбную справу.

Прыгадала першы фрымаркет, які ладзілі ў кінатэатры "Мір". Тады, па словах Ірыны, пасля фрымаркету да кінатэатра пад'ехала машына, цалкам загружаная дзіцячымі рэчамі для бясплатнага кірмашу.

– У гэты раз мы ашчаслівілі 12 чалавек, і ў той жа час хапіла адзення для вілейскага прытулку, – падводзіць вынікі фрымаркету Ірына Трубач.

Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 17.08 | 24.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9450 | **1,9319** |
| Еўра | 2,2831 | **2,2733** |
| Злоты, 10 | 5,3256 | **5,3157** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2612 | **3,2677** |
| Грыўня, 100 | 7,6066 | **7,5528** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ"** | **16.08** | **23.08** |
| Еўра | 2.2700/2.2950 | **2.2600/2.2800** |
| Долар ЗША | 1.9400/1.9550 | **1.9200/1.9400** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 16.08 | 23.08 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,85 | **16,85** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,98 | **6,95** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,25** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | Санітарны дзень | **3,85** |
| Селядзец, 1 кг | | **3,60** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | | **11,00** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,45 | **1,45** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,80 | **1,50** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,30 | **1,60** |
| Алей "Фермер", 1 л | 2,20 | **2,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,93 | **0,95** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,85 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 5,95 | **5,95** |
| Капуста, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,50 | **2,60** |
| Морква, 1 кг | 0,90 | **0,80** |
| Кабачкі, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Лімоны, 1 кг | 3,95 | **4,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,99 | **3,00** |
| Дыня, 1 кг | 1,70 | **1,50** |
| Буракі, 1 кг | 0,60 | **0,70** |
| Памідоры, 1 кг | 1,00 | **1,20** |
| Агуркі, 1 кг | 1,20 | **1,40** |
| Перац, 1 кг | 1,49 | **1,50** |
| Кавун, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Вінаград, 1 кг | 3,95 | **2,99** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Ківі, 1 кг | 5,00 | **4,90** |
| Персікі, 1 кг | 2,49 | **2,69** |
| Нектарыны, 1 кг | 3,30 | **3,50** |
| Абрыкосы, 1 кг | 3,20 | **3,90** |
| Бананы, 1 кг | 1,69 | **1,80** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Гранаты, | - | **9,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,20 | **2,20** |
| Грушы, 1 кг | 3,95 | **4,50** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |
| Мёд, 0,5 л | 6,50 | **6,50** |

НАВІНЫ

## Веласіпедыстка наехала на машыну, пазней пабіла супрацоўнікаў міліцыі

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося ў суботу, 19 жніўня, у вёсцы Маркава.

28-гадовая жыхарка Маладзечанскага раёна прыехала на дзень нараджэння да сваёй маці ў Маркава каля 15.00.

Паставіла машыну "Форд" ля варотаў і пайшла ў двор віншаваць матулю, жарыць шашлыкі.

У 16.35 раптам пачула кароткі, але моцны гук удару: "Тух!".

Выбегла да варотаў, дзе і заўважыла, як у яе машыну ўрэзалася 35-гадовая мясцовая жыхарка на ровары.

Машына атрымала пашкоджанні ззаду.

Раварыстка патлумачыла, што вярталася ад свайго сябра, дзе выпіла ўсяго нічога – каля 400 грамаў гарэлкі. Ехала на ровары, нікога не чапала. А ёй ззаду пасігналіла машына, якая праязджала міма. Машына, па словах жанчыны, яе моцна напалохала, ад таго яна і не заўважыла, як урэзалася ў машыну.

Супрацоўнікі ДАІ прапанавалі жанчыне прайсці медыцынскі агляд.

Жанчыну давезлі да Маладзечна, аднак пакідаць міліцэйскую машыну пасажырка наадрэз адмовілася: хапала супрацоўнікаў міліцыі за кашулі, білася і адмаўлялася лаяць пайсці ў медыцынскую ўстанову, спрабавала збегчы ад супрацоўнікаў міліцыі.

Аднак, прайсці агляд ёй давялося. У крыві хуліганкі знайшлі 1,66 праміле алкаголю. Раварыстку аштрафавалі за пашкоджанне машыны.

– Таксама на яе склалі пратакол за непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі, – расказаў "Рэгіянальнай газеце" дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош**. – Жанчыне пагражае штраф ад 2 да 50 базавых велічынь або адміністрацыйны арышт.

**Наталля ТУР.**

## Тэлефонны тэрарыст "замініраваў" бальніцу ў Мядзеле

МЯДЗЕЛ

Пасля званка аб тым, што ў прыёмным пакоі закладзеная бомба, з бальніцы былі эвакуіраваны амаль 100 чалавек, у тым ліку 14 цяжкахворых.

Зламыснік позна ўвечары ў пятніцу патэлефанаваў на Мядзельшчыне бальніцу і паведаміў, што будынак замініраваны, паведамілі ва УУС Мінскай вобласці.

Званок у "хуткую" паступіў 18 жніўня каля 22 гадзін. Мужчынскі голас вымавіў нешта невыразнае, а затым выразна сказаў: "У вас у прыёмным пакоі бомба".

"На месца здарэння прыбылі супрацоўнікі міліцыі. Былі эвакуяваныя пацыенты і медперсанал клінікі. У бяспечнае месца было пераведзена 96 чалавек, у тым ліку 14 цяжкахворых", - распавёў часова выконваючы абавязкі па пасадзе начальнік Мядзельскага РАУС **Уладзімір Ермаловіч**.

Паведамленне пра бомбу было непраўдзівым, ніякіх выбуханебяспечных прылад і прадметаў не знайшлі. Бальніца ў гадзіну ночы запрацавала ў штатным рэжыме, сказаў

Падазраванага затрымалі па месцы жыхарства. Ён быў п'яны.

Высветлілася, што "мінёр" стаіць на ўліку ў нарколага і псіхіятра. За апошнія пяць гадоў ён тройчы прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за ілжывы выклік міліцыі, адночы – за дробнае хуліганства, удакладнілі ва УУС.

**Паводле sputnik.by.**

## Кіроўца-бяспраўнік і яго 2-гадовая дачка вылецелі з салона машыны

АСТРАВЕЦ

Кіроўца "Нісана" ехаў з Гудагая ў Міхалішкі, скарыстаўшыся чужой машынай, якую прыгналі знаёмаму для рамонту.

У дарогу кіроўца ўзяў з сабой 2-гадовую дачку, паведамляе прэс-служба ДАІ Гродзенскай вобласці.

На прамым участку дарогі мужчына пайшоў на абгон, аднак не справіўся з кіраваннем аўтамабіля, з'ехаў у правы кювет і некалькі разоў перакуліўся.

Непрышпіленага парушальніка і яго дачку выкінула з салона. Іх змясцілі ў бальніцу. У машыне было толькі сядзенне для кіроўцы, таму дзіця зафіксаванае не было.

Мужчына не меў права кіравання аўтамабілем, бо каля двух гадоў таму яго затрымалі за язду ў нецвярозым стане.

**Паводле прос-службы Гродзенскай вобласці.**



ТЭМА НУМАРА

# Жыхару Вілейшчыны пагражае тэрмін за сувязь з непаўнагадовай

ВІЛЕЙКА

**Маладыя людзі жывуць у адной вёсцы на Вілейшчыне. Знаёмыя былі даўно, сустракаюцца ад снежня 2016 года.**



Фота wallpapers.99px.ru

Калі дзяўчына зацяжарала, ёй не было 16.

Хлопцу 24 гады, дзяўчыне нядаўна споўнілася 16. Яна вучыцца ў сярэдній навучальнай установе Вілейскага раёна. Каханы працуе на прадпрыемстве ў Вілейцы.

Калі дзяўчына зацяжарала, ёй яшчэ не было 16.

Як расказаў начальнік вілейскага раённага аддзела Следчага камітэта **Яўген Мягкоў**, 24-гадовы хлопец ведаў, што каханай няма 16. Па словах хлопца, ён абмяркоўваў з каханай яе ўзрост, але дзяўчына была не супраць інтымных адносін.

Пакуль хлопец не адмаўляецца ад дзіцяці і каханай. Ён згодны ажаніцца і выхоўваць дзіця.

Аднак, па словах Яўгена Мягкова, гэта не вызваляе падазронага ад пакарання. Бо склад злачынства тут усё роўна ёсць.

– Здараецца, што такія закаханыя за ручку ў суд прыходзяць, – падзяліліся ў Следчым камітэце.

Пра тое, што непаўнагадовая чакае дзіця, у міліцыю паведамілі з вілейскай раённай бальніцы ў пачатку жніўня.

За такое злачынства, паводле Крымінальнага кодэксу, могуць пазбавіць волі на чатыры гады або пакараць абмежаваннем волі на гэты ж тэрмін і штрафам.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Самы ранні ўзрост, калі становяцца мамамі ў рэгіёне, – 16 гадоў, самы сталы – 50

Паводле звестак ЗАГСаў рэгіёна за сем месяцаў, самы ранні ўзрост, калі жанчыны сталіся мамамі, – 16 гадоў, самы сталы – 50.

Сярэдні ўзрост, у якім нараджаюць дзяцей, 27-28 гадоў.

Як адзначыла начальнік аддзела ЗАГС Маладзечанскага райвыканкама Ала Івашкевіч, сёлета было шэсць выпадкаў па горадзе, калі скарачалі шлюбны ўзрост.

– Гэта значыць, што шлюб рэгістравалі, калі адзін з маладых не быў паўналетнім, – тлумачыць Ала Івашкевіч. – У такіх выпадках звычайна нявеста непаўналетняя, жаніх наадварот. Па законе шлюб можна заключаць з 15 гадоў, аднак на гэта патрэбныя важкія прычыны, звычайна гэта цяжарнасць альбо, калі ўжо ёсць дзіця, радзей эмансіпацыя (непаўналетнюю прызнаюць дзеяздольнай).

Калі непаўналетняя цяжарная дзяўчына ідзе на агляд да гінеколага, доктар абавязана паведаміць пра гэта ў следчы камітэт, які ў далейшым высвятляе акалічнасці справы. Сярод якіх, ці збіраецца будучы бацька пабрацца шлюбам з непаўналетняй, гадаваць дзіця. Калі згодны і няма іншых супярэчнасцяў, няма падстаў заводзіць крымінальную справу.

– Сёлета быў выпадак, калі замежны грамадзянін меў сувязь з непаўналетняй, і яна зацяжарала, – расказвае Ала Генадзеўна. – Аднак мужчына не адмаўляўся жаніцца і ў хуткасці гэта зрабіў, таму ніякіх праблемаў з законам не ўзнікла.

| Раён | Самая маладая мама | Самая сталая мама | Сярэдні ўзрост парадзіх |
|---|---|---|---|
| Маладзечанскі | 16-18 гадоў | 40-50 гадоў | 28 гадоў |
| Вілейскі | 16 гадоў | 50 гадоў | 28 гадоў |
| Ашмянскі | 16 гадоў | 42 гады | 25-30 гадоў |
| Мядзельскі | 18 гадоў | 45 гадоў | 28 гадоў |
| Валожынскі | 16-18 гадоў | 45-50 гадоў | 27 гадоў |
| Астравецкі | 16-18 гадоў | 40-45 гадоў | 25-30 гадоў |
| Смаргонскі | 16-18 гадоў | 40-45 гадоў | 28 гадоў |

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

## Адкрываюць трафейнае паляванне

МАЛАДЗЕЧНА

Ад 20 жніўня па 30 верасня дазволілі трафейнае паляванне на лася, аленя высакароднага, аленя плямістага, лань.

Дазваляюць здабычу дарослых самцоў, а таксама селекцыйных жывёл любога полу і ўзросту. Палявацъ можна на працягу сутак з засады і з падыходу.

Можна выкарыстоўваць наразную, гладкаствольную, кідальную (лукі і арбалеты) паляўнічую зброю.

Да трафейных жывёл адносяцца:

– дарослыя самцы ласям, якія маюць лапатападобныя рогі, разгалінавай або пераходнай формы з трыма і больш атожылкамі на кожным рогу;

– дарослыя самцы аленя высакароднага і аленя плямістага, якія маюць рогі тыповай формы з чатырма і больш атожылкамі на кожным рогу;

– дарослыя самцы лані еўрапейскай, якія маюць рогі тыповай формы.

Атожылкамі лічацца ўсе вырасты, уключаючы верхні канец рога даўжынёй ад двух сантыметраў.

Паляўнічыя жывёлы, якія маюць пералічаныя прыкметы, адносяцца да трафейных незалежна ад селекцыйных прыкмет.

Да селекцыйных жывёл, якія падлягаюць адстрэлу незалежна ад выгляду, адносяцца:

– паляўнічыя жывёлы любога полу і ўзросту з траўмамі і калецтвамі. Такія жывёлы могуць кульгаць, цягнуць канечнасці;

– паляўнічыя жывёлы з відавочнымі прыкметамі захворвання, знясілення. Яны рухаюцца марудна, пасіўна, кашаляюць, ходзяць згорбіўшыся;

– паляўнічыя жывёлы з прыкметамі запозненай лінькі;

– паляўнічыя жывёлы, не відушчыя да адно або на два вокі;

– народжаныя сёлета, якія ў сезон палявання ў паляўнічых угоддзях знаходзяцца без маці;

– дарослыя самцы (старэйшыя за два гады) з рагамі, якія маюць адзін або абодва завостраных ствала без атожылкаў;

– самцы з рагамі, карацейшымі за вушы;

– самцы з рагамі нетыповай формы; дарослыя самцы аленя высакароднага;

– самцы, старэйшыя за два гады, з рагамі, якія маюць менш за чатыры атожылкі.

**Васіль ПАЎЛАЎ, старшы дзяржінспектар Маладзечанскай міжраённай інспекцыі.**

БЕЛАРУСЬ - ГЕРМАНІЯ

# “Думала, пакуль успомню слова, у людзей не хопіць цярпення, каб выслухаць”

## Маладзечанка пра цяжкасці, з якімі сутыкнулася ў Германіі

МАЛАДЗЕЧНА

**Рашэнне паехаць жыць у Германію да маладзечанкі Ганны Кісель прыйшло спантанна. Дзяўчына вучылася на трэцім курсе ўніверсітэта імя Максіма Танка на гістарычным факультэце.**

Яе жыццё нічым не адрознівалася ад жыцця іншых студэнтаў, пакуль не даведалася пра праграму Au-pair па накіраванні моладзі ў Германію. Для сябе дакладна вырашыла: хоча паехаць жыць у іншую краіну.

– Калі сказала пра сваё рашэнне маме, яна была ў шоку, – узгадвае Ганна. – “Навошта табе ехаць у чужую краіну? Як ты там будзеш жыць? Чаму кідаеш універсітэт? Дзе ты ўладкуешся без адукацыі? А калі ў цябе пашпарт скрадуць?” – сыпаліся шматлікія пытанні. Аднак удалося яе ўпэўніць, хаця і цяпер не менш хвалюецца за мяне.

Пра тое, што кідае ўніверсітэт, маладзечанка не перажывала, бо прыйшла да высновы – гэта не тая спецыяльнасць, з якой бы хацела звязаць жыццё.

### Баялася размаўляць

Спачатку Ганна жыла ў горадзе Бад-Хонеф у Германіі, пасля пераехала ў Кронберг, дзе таксама жыла ў сям'і. Цяпер жыве ў Франкфурце.

Як прызналася дзяўчына, яна вельмі сціплая, ёй цяжка пачынаць знаёмствы з новымі людзьмі, таму складана было прывыкнуць да новай абстаноўкі, што жыве ў чужой сям'і.

– Цяжкасці ўзніклі і з мовай, – расказвае Ганна. – Хаця і вучыла нямецкую мову ў школе, аднак гэтага было мала, каб свабодна размаўляць. Падавалася, пакуль успомню слова, у людзей проста не хопіць цярпення, каб выслухаць. Аднак, на маю радасць, немцы вельмі цярпліва ставіліся да гэтага, не падганялі. Крыху моўнай практыкі – і праблема сама па сабе вырашылася.

Добрай дапамогай былі і моўныя курсы, якія абавязкова павінен наведаць прыезджы. Напачатку правяраюць моўны ўзровень, па выніках прызначаюць заняткі.

Аднак часам праз вымаўленне дзяўчына сутыкаецца з пытаннем: “Ці не з Францыі прыехала?” Тлумачыць, што з Беларусі.

– У перакладзе на нямецкую Беларусь гучыць як Белая Расія, – тлумачыць маладзечанка. – Адзначаю, што сталіцай з'яўляецца Мінск. Пасля гэтага многія ўзгадваюць пра **Аляксандра Лукашэнку** і разумеюць розніцу ад Расіі.

### Цэны на жыллё залежаць ад раёна, у якім наймаеце яго

Пакуль Ганна жыла ў сем'ях па праграме Au-pair, удалося назапасіць грошай, каб пераехаць у Франкфурт, наняць кватэру, заплаціць страхоўку і паступіць ва ўніверсітэт.

– Цэны на найманае жыллё вельмі адрозніваюцца ў Франкфурце, – дзеліцца досведам дзяўчына. – Усё залежыць ад раёна, у якім плануеце жыць. У сярэднім прыйдзецца аддаць за невялічкую кватэрку 700-800 еўра (1568 рублёў – 1792 рублі), плюс камунальныя паслугі. Часта ў кватэрах няма мэблі, таму трэба набываць самастойна.

Пакуль гэты варыянт цалкам задавальняе Ганну, таму яна не задумвалася над пакупкай жылля ў Германіі.

### Чым лепшая адукацыя, тым вышэйшы заробак

Каб паступіць ва ўніверсітэт, дзяўчыне патрэбныя былі дакументы з Беларусі аб заканчэнні школы.

– Нямецкая сістэма адукацыі мала адрозніваецца ад беларускай, – расказвае Ганна. – Цяпер вучацца ў школе 11 гадоў, раней – 13. Школа падзеленая на пачатковую, сярэднюю і старэйшую. Пасля сярэдняй можна набываць рабочыя спецыяльнасці. Пры гэтым студэнт вучыцца і працуе тры гады. Аднак у любы час можна працягнуць навучанне ў старэйшай школе, каб пасля паступіць у ВНУ.

Калі вы хочаце атрымаць ступень бакалаўра, трэба вучыцца тры гады. Пры гэтым вучэбныя прадметы можна здаваць тады, калі табе гэта зручна. Два гады дадаткова трэба вучыцца, каб атрымаць дыплом магістра. Аднак у гэтым выпадку важна здаваць прадметы своечасова.

**– Ад таго, якая ў вас адукацыя, залежыць заробак, – тлумачыць дзяўчына. – Майстар атрымлівае значна больш, чым бакалаўр.**

### Праязны – вялікая падтрымка для студэнтаў

Навучанне ў некаторых федэральных землях бясплатнае, аднак ёсць сума, якую абавязкова трэба заплаціць. За гэтыя грошы студэнты атрымліваюць, напрыклад, праязны на ўсе віды транспарту.

– Праезд вельмі дарагі, – тлумачыць Ганна. – Таму праязны – прыемны бонус. Сістэма аплаты ў розных відах транспарту шырокая: залежыць ад часу сутак, колькасці прыпынкаў альбо часу, праведзенага ў транспарце. У сярэднім 2,80 – 3 еўра (прыкладна 6 – 7 рублёў).

### Некаторыя студэнты адмаўляюцца ад стыпендыі

У Германіі ёсць розныя супольнасці, арганізацыя, якія могуць грашмі дапамагаць студэнтам.

– Аднак мець такую стыпендыю не так і проста, – тлумачыць Ганна. – Патрэбна выканаць некалькі патрабаванняў і прайсці некалькі этапаў. Абавязковыя ўмовы: добры атэстат, станоўчыя адзнакі за вучобу, быць актыўным удзельнікам разнастайных мерапрыемстваў. Адзін з этапаў – гэта інтэрв'ю з прадстаўнікамі арганізацыі, якая выплачвае стыпендыю. Па выніках семестра ў арганізацыю, якая выплачвае стыпендыю, трэба адпраўляць справаздачу па вучобе, пісаць пра далейшыя планы. У мяне ёсць сяброўка з Украіны, якая атрымлівала такую стыпендыю, аднак адмовілася ад яе. Гэта лішні ціск, а справаздачы займаюць шмат часу.

Спачатку Ганна ва ўніверсітэце выбрала факультэт моваазнаўства, спецыяльнасць японская мова, пасля памяняла на музыказнаўства.

– Пакуль я ўзяла паўзу ў навучанні, – тлумачыць дзяўчына. – Бо ў Германіі ў мяне няма ніякай падтрымкі, таму прыходзіцца вучыцца запаволенымі тэмпамі, сумяшчаць вучобу і працу.

### У вольны час ходзіць у оперу і на стральбу

Каб зарабіць, дзяўчына працуе на дзвюх работах: у музычнай школе і фітнес-студыі. Свабоднага часу няшмат, аднак, калі выпадае, сустракаецца з сяброўкамі, якія прыехалі ў Германію з Расіі, Славакіі, Украіны.

– Завесці сяброўства з немцамі на рабоце альбо на вучобе складана, – тлумачыць Ганна. – У першы ж дзень заняткаў людзі дзеляцца на групы. Як падзяліліся, так будзе і ў далейшым. Аднак, калі ты захочаш прымкнуць да пэўнай групкі, цябе не адштурхнуць, аднак і шчырага сяброўства можа не атрымацца.

Падабаецца дзяўчыне хадзіць у оперу, тэатр, кіно, гуляць па горадзе. Некаторы час яна брала ўрокі вакалу. А цяпер запісалася на стральбу.

– Мне заўсёды падабалася цэліць, – усміхаецца дзяўчына. – Цяпер вучуся страляць з ружжа, аднак кулькі ў ім несапраўдныя. Як і ў Беларусі, калі ты хочаш купіць агністрэльную зброю, патрэбны пакет дакументаў, сярод іх медыцынская даведка.

Пакуль Ганна не плануе вяртацца ў Беларусь. У перспектыве – асвоіць прафесію арганізатара канцэртаў.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**




## Au-pair

прагарама, паводле якой нямецкія сем’і прымаюць да сябе маладых людзей. Яны павінны выконваць нескладаную працу па дому, даглядаць дзяцей

### Патрабаванні да кандыдата



**Узрост:** 18-26 гадоў



Базавае валоданне нямецкай мовай

### Як самастойна трапіць у Германію па праграме Au-pair



**1** зарэгістравацца на сайце Au-pair www.au-pair.org, стварыць анкету

**2** знайсці сям'ю (можна пачаць пошук сем'яў па анкетах)

**3** заключыць дамову з сям'ёй; сабраць неабходныя дакументы, атрымаць візу Au-pair.

Самы прыдатны час шукаць сям'ю па праграме Au-pair **жнівень-верасень або студзень-люты**. Тады заканчваюцца канікулы і пачынаецца навучальны сезон. Знайсці сям'ю можна і ў іншы час, але попыт можа быць меншы



Інфаграфіка Галіны СУДНІКОВІЧ.

*Паводле linguatour.com, lastrada.by.*




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**.
**ВІЛЕЙКА** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.**

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | |
|---|---|
| Астравец | -01591, |
| Ашмяны | -01593, |
| Валожын | -01772, |
| Вілейка | -01771, |
| Маладзечна | -0176, |
| Мядзел | -01797, |
| Смаргонь | -01592. |



## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-2106, 1988 г.в., зялёны, добры стан, адзін гаспадар. Торг. Вілейка. Т. МТС (8-029) 7677281.

• ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*

• ГАЗ-2410, 1989 г.в., газбензін, 5-ці ступенчатая каробка перадач. Т. МТС (8-029) 5752803.*

• Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*

• Мазда 626, 1987 г.в., 2,0д, на хаду, у добрым стане, скутар "Jogt" Японія, аднамясцовы. Вілейка. Т. (8-029) 5693273.

• Опель-Зафіра А рэстайлінг, 2.0 дызель, 2004 года. Т. (8-029) 1249091.*

• Рэно-Эспайс, 1994 г.в., 2,0 бензін., сіне-зялёны. Т. Лайф (8-025) 9009398.*

• ФВ Гольф, 2001 г.в., 1,9 л, белы. Т. МТС (8-033) 6601433, (8-0176) 544060.*

• **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

• Камплект летняй гумы на літых дысках для Пежо 405 R14. Т. (8-029) 5037346.*

• Рухавік ЯМЗ-236 з КПП спраўны, Д 245 1-й камплектнасці, ПАСАТ Б-2, 1,6Д, на хаду. Цана дагаворная. Т. (8-029) 5589167.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*

• Аўто, можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ІНШАЕ

• **КУЗАЎНЫ РАМОНТ АЎТО** ад зваркі да паліроўкі. Высокая якасць і прыемныя цэны. ІП Шыцік П. П. УНП 191477481. Т. (8-044) 7640814, (8-0176) 703031.*

### ПАСЛУГІ

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, траншэекапальнік, вібраплітa 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

• Паслугі экскаватара ЮМЗ. Усе віды земляных работ. Самазвал 10 т. ІП Крэнць С.М. УНП 692015814. Т. (8-044) 5543967, (8-029) 8762233.*



## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. 2746195*.

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. МТС (8-029) 5679826.

• 1-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі. Т. (8-01771)32193, (8-033) 6029250.

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, раён завода "Зеніт", 29 кв.м, новыя шклопакеты і каналізацыйныя трубы. Т. (8-033) 6407773.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, еўрарамонт. Магчымы абмен на Мінск з даплатай. Т. (8-029) 2749893.*

• Гараж у ГК-5Р Здземелева. Памер 4х6. Сматравая яма і два падвалы. Атынкаваны і пафарбаваны, 6400 руб. Т. (8-029) 1419072.*

• Дача, 17 км ад Маладзечна. 1-пакаёвая кватэра ў Мінску. Т. (8-029) 3925149.*




• Дом драўляны ў добрым стане, нарачанскі напрамак, 8 км ад Вілейкі, 16 сотак, калодзеж, склеп. Т. (8-044) 7587148.*

• Дом з гаспадарчымі пабудовамі, падвалам, калодзежам (хутар) у в. Галінава, Куранецкі с/с. Т. (8-033) 6627867.*

• Дом на Вілейскім вадасховішчы ў в. Чыжэвічы, 27 000 рублёў. Т. (8-029) 7708512, (8-029) 2731471.*

• Дом у в. Гайголі. Т. Вэлком (8-044) 4553402.*

• Дом у в. Кардон, калодзеж, участак, лес, рэчка побач. Т. (8-029) 2928728.

• Дом у в. Рабунь, 50 кв. м, з участкам 0,25 га і гаспадарчымі пабудовамі. Т. (8-033) 6356008.*

• Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*

• Дом у Вілейцы, нядорага. Т. (8-029) 8741813, 24627.

• Дом у маляўнічым кутку, побач з возерам Вішнеўскае, у в. Астраўляны, д. 43 Мядзельскага раёна. Ёсць гаспадарчыя пабудовы, хлеў, гараж, лазня. Торг магчымы. Т. МТС (8-033) 3444338.*

• Дом цагляны ў вёсцы М. Запруддзе Валожынскага раёна, 0,25 га. Цана 24 000 руб, торг. Т. (8-029) 8730880.*

• Участак з домам у в. Гараватка, 15 сотак, крайні, зруб. Цана 16575 руб. Т. (8-029) 3221494.*

### ЗДАМ

• Пакой у цэнтры Маладзечна. Т. (8-029) 5019550.*



## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вядучая на свята. Т. (8-033) 6228417.

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865. Васкабовіч А.А.*

Прадам **ДАЧУ** паблізу Вілейкі, Плікавічы. Участак 10 сотак. 4 км да вадасховішча.



Т. (8-029) **651 20 36**.

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

• **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*

• Грузаперавозкі. Бус 1,5 тон. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*

• Грузаперавозкі. Фура-борт, 20 тон. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*

• Мерсэдэс – 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• Мерсэдэс-Бэнц-Спрынтар да 2-х тон (4,2Ч1,6Ч1,75) горад, РБ, РФ. ІП Навойчык О.В. УНП 692015166. Т. (8-029) 1684717, (8-029) 7684717.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Агароджы з прафнасціла, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*




• Аграсядзіба, **ЛАЗНЯ**. Vslobode.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*

• **АДДЗЕЛКА ДАМОЎ САЙДЫНГАМ**. ІП Бяліцкі А.В. УНП 690688577. Т. (8-029) 7085907, (8-029) 1232842.*

• Біялогія і хімія. Падрыхтоўка да ЦТ, запаўненне прабелаў. Індывідуальны падыход да навучання. Тэлефанаваць ад 17.00 да 21.00. Т. (8-029) 8610280.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Суббот П.І. УНП 692010733. Т.(8-029) 7737451, (8-029) 1285233.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. Нізкія цэны. ІП Маців А.М. УНП 691410712 Т. (8-029) 9447224, (8-033) 6911759.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. Хутка. Нядорага. Акцыі. Скідкі. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450 Т. МТС (8-029) 7860317, Вэлком (8-029) 1287878.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Добраўпарадкаванне пахаванняў, устаноўка помнікаў. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 3469417.*

• Кладка, дах, фундамент, аддзелка. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.У. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Падрыхтоўка да субяседвання на **КАРТУ ПАЛЯКА** "з нуля". Рэпетытар па **ПОЛЬСКАЙ МОВЕ** Тадэуш Круплевіч. Пражываю ў г. Вілейка Мінскай вобласці. Адукацыя: **МАГІСТР ПЕДАГОГІКІ КУЛЬТУРАЗНАЎСТВА**, скончыў у 2003 годзе Беластоцкі ўніверсітэт (факультэт педагогікі і псіхалогіі). На занятках вучні вывучаюць, як правільна гаварыць і выказваць свае думкі на польскай мове, што з'яўляецца галоўнай умовай для атрымання КП пасля пацвярджэння паходжання і грамадзянства сваіх продкаў. Прадстаўляю ўсе вучэбныя матэрыялы па польскай мове, па гісторыі, традыцыям і культуры Польшы. Пракансультую з нагоды дакументаў і падстаў, неабходных для атрымання Карты Паляка. Дапамагу з напісаннем пошукавых запытаў у польскія архівы. Мой тэлефон для кантактаў: МТС (8-029) 5754014.

Размясці сваю аб'яву не менш за **ТРЫ РАЗЫ**, і яе прачытаюць у інтэрнэце на сайце Rh.by

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт ноўтбукаў і камп'ютараў любой складанасці. ПУП

РОЗНАЕ

"Рункомп" УНП 6902552869. Т. МТС (8-033) 3788997, (8-029) 3788997.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

• Тратуарная плітка, борт і іншае. Укладка. Дастаўка. ІП Юрэвіч У.У. УНП 691505215. Т. (8-044) 7168663, (8-029) 8761382.*

• Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• **БЛОКІ Г/С (ВЫТВОРЧАСЦІ СМАРГОНІ, ЗАБУДОВЫ), ЦЭГЛА. ДАСТАЎКА.** Прыватнае прадпрыемства "Бізнес-Дэталь" УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*

• **ВАГОНКА** (сасна, вольха), імітацыя бруса, **ПІЛАМАТЭРЫЯЛЫ** і інш. Маладзечна, вул. Гарадоцкая, 102. ПП "Маркціна Білд" УНП 690627804. Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

• Вагонка, вольха, сасна. Дошкі для падлогі, блок-хаўс, імітацыя бруса, палок. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

• Цэгла, віцебскі пячны цэх №1, цэгла шамотная. Т. (8-044) 7557072, (8-029) 8351640.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Бетонамяшалка 120 л, малатарня, культыватар "Крот". Тел. (8-029) 6233154.

• Бульбасаджалка. Т. (8-029) 8462052.

• Трактар самаробны, дызель, мост пярэдні Т-16. Т. (8-029) 3865672.

• Трактар самаробны. Т. (8-029) 6237550.*

• Трактар Т-40, навясное, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*

• Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*

• Трактар, сані, павозка на драўляным ходу. Цана дагаворная. Т. (8-029) 8730880.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• Абслугоўванне, наладжванне, рамонт спадарожнікавых антэн. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750. Т. (8-033) 3494488.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцераль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Бараніна жывой вагой – 4,5 руб, мясам – 8,5 руб. Т. (8-029) 6769359. Віталь.

• Шчаняты ёркшырскіх тэр'ераў. Акрас сталь з золатам. Т. (8-029) 1629761.

КУПЛЮ

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Антыкварыят**

• Антыкварыят, статуэткі, гадзіннікі, грамафоны, карціны, мэблю і іншыя старажытныя рэчы. Т. МТС (8-033) 9030854, Вэлком (8-029) 1447482.*

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Батарэі чыгунныя. Т. (8-029) 8789740.*

• Кнігу "Памяць" розных рэгіёнаў. Т. (8-029) 5019550.*

• Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Рогі лася, аленя. Т. (8-029) 8552646.*

ПРАЦА

ПАТРАБУЕЦЦА

• На пастаянную працу майстар-цырульнік з досведам не менш за 2 гады. ІП Якубовіч І.Т. УНП 691179344. Т. (8-029) 7691223.

ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю працу печніка.Т. (8-025) 6035930.*

# Пісьменнік Уладзімір Арлоў і мастак Павел Татарнікаў наведалі Залессе

СМАРГОНЬ

19 жніўня ў музеі-сядзібе **Міхала Клеафаса Агінскага** ў Залессі зладзілі сустрэчу з аўтарамі кнігі "Айчына" – пісьменнікам **Уладзімірам Арловым** і мастаком **Паўлам Татарнікавым**.

Лаўрэаты прэміі Цёткі за лепшы твор для дзяцей і падлеткаў змаглі распавесці пра нашу краіну ды яе гісторыю ярка і займальна. Не менш цікава яны распавялі пра кнігу і сваю творчасць прысутным у зале.

Уладзімір Арлоў прадставіў сваіх спадарожнікаў – перакладчыкаў **Ганну Янкуту** і **Ігара Крэбса**, а таксама суаўтара – **Паўла Татарнікава**.

Насамрэч цяжка ўявіць тэксты Арлова без ілюстрацый Татарнікава: Бона Сфорца, Скарына, Агінскі, Радзівілы – пра іх нельга распавесці дзецям і падлеткам выключна тэкстамі.

– Я нарадзіўся ў год Змяі па ўсходнім календары і ў год смерці Сталіна па календары савецкім у радзільні насупраць Сафійскага сабора ў Полацку пад знакам Дзевы. Думаю, што месца нараджэння і вызначыла мой лёс, – распавёў Уладзімір Арлоў.

Пошукі падземных хадоў і дабірынтаў прывялі пісьменніка на гістарычны факультэт БДУ, а потым і да гістарычнай тэмы ў яго літаратурных творах.

На думку Уладзіміра Арлова, які ўжо 20 год займаецца напісаннем кніг для дзяцей і дарослых, выхад кожнай кнігі можна параўнаць з нараджэннем дзяцей.

Твор"Айчына" бярэ свой пачатак з кнігі Арлова "Адкуль наш род", чатыры наклады якой былі паспяхова распрададзены. Кніга выйшла ў 1990-х, трапіла ў школьную праграму і стала папулярнай.

Апошнім штрыхом сустрэчы стала ракета, запушчаная Паўлам Татарнікавым на газоне перад палацам Агінскіх. Асабліва гэтая дзея захапіла маленькіх наведнікаў.

"Айчына" – гэта па сутнасці "Краіна Беларусь. Ілюстраваная гісторыя" для дзяцей і падлеткаў. "Айчына: маляўнічая гісторыя. Ад Рагнеды да Касцюшкі" – першая частка запланаванай аўтарамі трылогіі пра нашу гісторыю і найбольш выбітных яе асобаў.

Другую частку "Ад Літвы да Беларусі" аўтары прысвецяць 19 стагоддзю, а трэцюю – пераходу ад БНР да незалежнай Рэспублікі Беларусь.

Паводле радыё "Рацыя".

## На Мядзельшчыне знайшлі падмурак дома, дзе нарадзілася былая першая ледзі Польшчы

МЯДЗЕЛ

Падрабязнасці Польскаму радыё распавёў дырэктар Польскага інстытута ў Мінску **Матэвуш Адамскі.**

Паблізу беларускага мястэчка Нарач польскі дыпламат разам з беларускімі калегамі знайшлі месца, дзе стаяў дом, у якім нарадзілася першая ледзі Польшчы **Марыя Качыньска.** Сёння спаўняецца 75-я гадавіна з дня нараджэння жонкі прэзідэнта Польшчы **Леха Качыньскага.**

Марыя Качыньска нарадзілася ў вёсцы Махава на Мядзельшчыне. Месца, дзе стаяў дом, знайшоў дырэктар Польскага інстытута ў Мінску Матэвуш Адамскі.

У гэтым пытанні дапамог беларускі журналіст, які працуе зараз у Польшчы для газеты "Rzeczpospolita", **Руслан Шошын**. Ён сам паходзіць з Мядзела.

І ён падказаў, што на месцы ёсьць людзі, якія могуць дапамагчы знайсці дом лесніка Мацкевіча. "Дзякуючы Руслану Шошыну я звязаўся з мясцовымі краязнаўцамі і ў выніку некалькіх паездак мы знайшлі гэтае месца ў лесе", – распавёў Польскаму радыё Матэвуш Адамскі.

– Дома няма. Мы шукалі дом лесніка, пабудаваны да Другой сусветнай вайны непадалёк ад дарогі Кабыльнік-Мядзел. Зараз там стаіць ветлячэбніца. У пэўным радыюсе ад гэтага месца мы змаглі знайсці рэшткі таго, што засталося з дому Мацкевічаў – склеп, падмурак і частковa сходы ў галоўны ўваход да дому і бакавыя.

Марыя Качыньска – жонка восьмага прэзідэнта Польшчы. Эканаміст, грамадскі дзеяч.

Нарадзілася на Мядзельшчыне каля Нарачы (Кабыльніка) ў 1942 годзе ў сям'і лесніка. Пасля вайны сям'я пераехала ў Польшчу.

Марыя скончыла Вышэйшую школу эканомікі, працавала ў Марскім інстытуце ў Гданьску, дзе пазнаёмілася з будучым прэзідэнтам Польшчы.

Паводле radyjo.net.







Па-суседстве з Лізаветай Гурыновіч з вуліцы Віленскай жывуць лялькі і Баба Яга. Аднак, дзяўчынку яны не пужаюць, бо праз занятаць, 13-гадовай Лізы амаль ніколі не бывае дома. Фота Наталлі ТУР.

# Жыхарка Віленскай: "Я, калі выходзіла ў двор, пужалася да смерці"

МАЛАДЗЕЧНА

**Не, гэта не вуліца такая страшная. Проста ў нашых сённяшніх суразмоўцаў вельмі вясёлыя суседзі. У агародзе, якраз акурат ля вокнаў, стаіць пудзіла ў рост чалавека – Баба Яга з парасонам.**

– Кожны раз уздрыгвала, калі яе бачыла, – кажа жанчына, што жыве па суседстве. – Давялося паставіць высокі плот.

Маладзечанцы, мяркуем, заўважалі дзіўныя дамы на вуліцы Віленскай паблізу плошчы Старое месца.

На адным з іх надпіс: " Прыватная ўласнасць. Не прадаецца", а ў вокнах другога дома, таго што побач, размешчаны з дзясятак самаробных лялек.

Аднак, ні ў першым, ні ў другі доме гаспадароў дома не аказалася. Затое суседзі з дома № 185, сям'я **Гурыновічаў**, аказаліся вельмі цудоўнымі суразмоўцамі і адказалі на пытанні, як ім жывецца амаль у цэнтры старога горада.

– Вуліца будавалася ў 1946 годзе, – расказвае гаспадыня дома **Наталля**. – Будавалася блізка да дарогі, бо тады строга прытрымліваліся плану горада. Бабуля расказвала, што калі будавалі дом, ужо паклалі пяць вянцоў далей ад дарогі. Прыехаў архітэктар, нацягнуў уздоўж вуліцы вяроўку і сказаў:

> **" Раніцай ваш дом павінен быць на адной лініі з вяроўкай, інакш ваш чакаюць Салаўкі".**

Дом пабудавалі, а калі горад пачаў разбудоўвацца, Віленскую ўнеслі ў план на знос.

– Шмат гадоў мы чакалі, што гэтыя дамы знясуць, вуліцу пашыраць, аднак, гэтага так і не здарылася.

Пагэтаму сям'я пачала рабіць рамонт, рэканструкцыю. Дом аздобілі сайдынгам, зрабілі касметычны рамонт. Правялі ў дом усе камунікацыі, адзіныя, дарэчы з усёй вуліцы.

Суседзі ў нашых суразмоўцаў розныя.

– Вуліца старэе, – кажуць гаспадары. – Я ўсё жыццё пражыла ў гэтым доме, ніколі дзяцей побач не было. Адныя пенсіянеры.

У доме, на якім напісана "Прыватная ўласнасць", жыве пенсіянерка, былая выкладчыца матэматыкі.

– Яна жыве недзе ў іншым месцы, сюды прыязджае час ад часу.

А ў доме, дзе на ўсіх вокнах развешаны лялькі, жыве мастачка.

– Цяпер на вокнах лялькі, – кажа Наталля, – а раней увесь дом быў распісаны вялізнымі чырвонымі макамі. Не разумею я чагосьці ў мастацтве, – смяецца жанчына.

А вось як змагацца з шумам, жыхары пакуль не прыдумалі.

– Тут ужо даўно трэба паставіць шумаізаляцыйны шчыт, але ўладам пакуль не да гэтага. А самі мы гэтага зрабіць не можам. Шум – гэта паўбяды, а яшчэ бруд.

Наталля расказвае, што дом даводзіцца мыць кожны тыдзень. А зімой, наогул, праз дзень.

Пра планы, як яшчэ расшырыць, або палепшыць дом, гаспадары жартуюць, што калі ў дачкі **Лізаветы** паявіцца муж, ён і будзе займацца гэтым.

### Вакалістка Ліза

Лізе 13 гадоў. Яна расказвае, што ў яе, як і ў мамы, сяброў на вуліцы Віленскай не было. Таму дзяўчынка на ранняга дзяцінства ўся ў раз'ездах.

Мама ці тата возяць яе ў школу, на танцы, у вакальную студыю "Спяваем разам".

– Цяпер я ўсур'ёз зацікавілася вывучэннем замежных моў, сумаваць няма калі.

– Ліза ў нас мэтанакіравае дзіця, – расказвае Наталля. – Прыйшла аднойчы і кажа: "Мама, я хачу пець". Сама падрыхтавался да праслухоўвання. І ўжо два гады займаецца ў эстраднай студыі ў **Алены Атрашкевіч.**

Дзяўчынка прымае удзел у розных канцэртах і конкурсах, дадаткова вучыцца іграць на акардэоне і гітары.

А сёлета Ліза перамагла ў вакальным конкурсе ў лагеры "Зубраня".

– Я не думала, што маё захапленне музыкай і спевамі стане такім сур'ёзным. Але мне цяпер цікава скарадь новыя вяршыні.

Ліза марыць аднойчы прыняць удзел у Славянскім базары.

Хто ведае, можа таму "Славянскаму базару" і не хапае вакалісткі Лізы з вуліцы Віленскай, 185.

Наталля ТУР.

# “Гэта адзіны мужчына, які вытрымаў мяне сем гадоў”

## Удзельніца “Роварнага злёту” на Валожыншчыне падзялілася досведам

ВАЛОЖЫН

**Апошнім часам расце мода на ровары – усё больш людзей аддаюць перавагу гэтаму экалагічнаму віду транспарту, чым уласнай машыне і нават грамадскаму транспарту.**

Наколькі павялічылася супольнасць раварыстаў, паказвае колькасць удзельнікаў “Роварнага злёту” на хутары Шаблі ў Валожынскім раёне, які адбыўся 19 і 20 жніўня. У параўнанні з мінулым годам яна вырасла прыкладна ў паўтара раза: летась было каля 300 удзельнікаў, сёлета – 500.

### Праехалі каля 2000 кіламетраў, каб пабачыць беларускую велаактыўнасць

– Як гэта лічылася? Мы параўноўвалі колькасць аўтамабіляў і байкаў, колькасць палатак, а іх нашы валанцёры налічылі каля трохсот; а таксама людзей, зарэгістраваных на мерапрыемствах злёту, – тлумачыць арганізатар “Роварнага злёту” дырэктар Мінскага роварнага таварыства **Анастасія Янчэўская**.

Прыкладна 50% удзельнікаў былі з Мінска і Мінскай вобласці.

На мерапрыемства завіталі госці з замежжа: Расіі, Украіны, Германіі і Латвіі.

> **– Самую вялікую адлегласць, амаль у 5 тысяч кіламетраў у адзін бок, пераадолелі нашыя сябры-велаактывісты з Краснаярска. А раварысты з Растова і Пяцігорска праехалі каля 2000 кіламетраў, каб пабачыць беларускую велаактыўнасць, – расказвае Анастасія.**

### На ровары, як на кані

**Вікторыя Церашонак** прыехала на мерапрыемства з Мінска на машыне. Меркавала, не здолее пераадолець адлегласць да Валожына на ровары, узяла яго з сабой.

– Хацелася захаваць сілы і на роварную экскурсію, – тлумачыць жанчына. – Аднак на наступны год перагледжу маршрут, магчыма, і адолею ўвесь шлях на ровары.

Спачатку жанчына мела іншыя планы на выхадныя, але даведалася пра “Роварны злёт” – і ўсе адмяніла.

– Гэта Валодзя, – прадстаўляе жанчына свайго жалезнага сябра.

Тое, што ў ровара ёсць імя, простае тлумачэнне – Вікторыя шмат часу праводзіць з ім. Гэта не толькі частка яе жыцця, а сябар. Падбірала імя, каб яно не сустракалася сярод знаёмых і сяброў, каб не было крыўдаў і пытання.

– Спачатку назвала яго Уладзімірам, – расказвае жанчына. – У мяне тыповы гарадскі ровар з высокім сядлом. Калі садзілася на яго, падавалася, еду, нібы на кані. Сама сабой узнікла назва князь Уладзімір. Але з часам змяніла на Валодзю. Гучыць не афіцыйна, а значыць больш па-сяброўску.

Ровар, які Вікторыя ўзяла на фестываль, называе Уладзімір другі. Першага скралі ў 2011 годзе, прыйшлося набываць новы. Але купіла адзін у адзін з папярэднім, бо вельмі падабаўся.

> **– Дарэчы, гэта адзіны мужчына, які вытрымаў мяне сем гадоў, – жартуе ўласніца экалагічнага транспарту.**

### “Язда на ровары – кайф, а не праверка на трываласць”

Роварны сезон у Вікторыі доўжыцца паўгода, з красавіка па верасень. Штодзень яна ездзіць на ім на працу з Каменнай Горкі і да станцыі метро “Маскоўская” і назад. Агулам атрымліваецца 40 кіламетраў.

– Для мяне язда на ровары – гэта кайф, а не праверка на трываласць, – тлумачыць жанчына. – Таму ніколі не ставіла сабе мэту праехаць, як мага больш. Па гэтай жа прычыне і не лічу колькасць кіламетраў, якія накручваю па гораду.

Часта жанчына сутыкаецца з пытаннямі ад знаёмых, якія не ездзяць на ровары, аднак маркуюць паспрабаваць. Сярод самых распаўсюджаных: а як я буду ездзіць на ім на работу, калі ў нашым офісе дзелавы стыль адзення? Як я буду выглядаць пасля паўгадзіннай язды?

Вікторыя ўпэўненая – гэта стэрэатыпы, што пасля паездкі на ровары прыязджаеш растрапаны, змучаны. Той, хто нечага хоча, шукае шляхі; хто не хоча, шукае адгаворкі. Так, напрыклад, на рабоце ў жанчыны ёсць вопратка, якую можа апрануць, каб ісці на дзелавую сустрэчу. А праблему з макіяжам выдатна вырашыць касметычка, яе можна і з сабой прыхапіць.

– Калі еду грамадскім транспартам, у мяне настрой псуецца, адчуваю сябе злой і раздражнёнай, – адзначае Вікторыя. – Нават рухаюся запаволена. Іншая справа, калі еду на ровары.

### Адчувала сябе знаёмай сярод незнаёмцаў

На фестывалі ў Шаблях раварысты больш за ўсё спадабалася атмасфера, якая панавала сярод людзей: адчуваеш сябе даўняй знаёмай нават з незнаёмымі.

– Ёсць адзін распаўсюджаны стэрэатып, што на ровары ў горадзе ездзіць толькі моладзь, – расказвае Віка. – Варта б было гэтым людзям прыехаць у Шаблі, каб упэўніцца ў адваротным, колькі людзей сталага ўзросту сабралася. Яны прызнаваліся, што менавіта ровар дапамагае захоўваць бадзёрасць.




Фота забяспечанае Вікторыяй ЦЕРАШОНАК.

Вікторыя Церашонак з роварам па імені Валодзя.



Фота vk.com/veloslet fest

### Ці будуць праводзіць фестываль на лета

Арганізатары сёлетняга фестывалю абяцаюць, што роварныя мерапрыемствы будуць праводзіцца і ў наступным годзе. Аднак застаецца пытанне пра іх фармат, месца правядзення, магчыма назвы.

– Галоўнае для нас – рабіць якасныя і карысныя для раварыстаў мерапрыемствы, – адзначае арганізатар “Роварнага злёту” Анастасія Янчэўская.

Таму Мінскае роварнае таварыства заклікае неабыякавых людзей дзяліцца ідэямі, выказваць пажаданні. Арганізацыя ўпэўненая, што толькі разам можна зрабіць справу лепш.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**



Фота vk.com/veloslet fest

Фестываль “Роварны злёт” праходзіў на Валожыншчыне з 19 па 20 жніўня.

# Маладзечанец віншуе калег-шахцёраў з прафесійным святам

МАЛАДЗЕЧНА

**У апошнюю нядзелю жніўня святкуюць Дзень шахцёра.**

З дзяцінства я ведаў пра шахцёрскую працу ў вугальных капальнях. Заўсёды было цікава, як глыбока пад зямлёй праводзяць выпрацоўкі да дабытковых участкаў.

Праца гарняка цяжкая фізічна. Вугальны масіў, які здабываюць пад зямлёй, трэба падымаць на паверхню.

На шахце ў Данецку я адпрацаваў 14 гадоў. Тут здабываў коксавы вугаль, які быў патрэбны для металургіі. У Аўдзееўцы з яго рабілі кокс. З яго дапамогай у Марыупалі варылі метал.

Вугаль залягае ў зямлі на розных глыбінях. Са свайго досведу, магу сказаць, што гэта можа быць нават 1500 метраў. Але горныя выпрацоўкі капалі на максімальную глыбіню – 1200 метраў.

Яшчэ хлопчыкам бачыў у шахце лозунг савецкіх часоў "Шахты – гэта другі фронт ". Тое, што гэты лозунг справядлівы, адчуў, калі сам пачаў працаваць у шахце.

Многія наведнікі маіх фотавыставаў у Маладзечне і Чысці бачылі фотаздымкі з жыцця і працы шахцёраў. Сярод іх ёсць кадры, зробленыя на глыбіні больш за 1000 метраў, недалёка ад чыгуначнага вакзала "Данецк".

Ведаю, у нашым рэгіёне ёсць людзі, жыццё якіх звязанае з горнай падземнай працай. Віншую іх усіх са святам.

**Аляксандр САЛАГУБ, жыхар Маладзечна.**
**Фота забяспечана аўтарам.**



Аляксандр Салагуб у шахце.

Мікалай Капітанчук – напарнік Аляксандра Салагуба.

## У верасні ў Вілейцы зладзяць фестываль "Светлае слова"

ВІЛЕЙКА

Мерапрыемствы літаратурна-музычнага фестывалю "Светлае слова" супрацоўнікі вілейскай раённай бібліятэкі будуць ладзіць на працягу амаль усяго верасня.

8 верасня ў 11:00 свята урачыста адкрыюць у вілейскім каледжы.

У гэты ж дзень ад 14:00 да 16:30 у вілейскай бібліятэцы адбудзецца літаратурны кірмаш "З кнігай праз стагоддзі", прысвечаны 500-годдзю беларускага кнігадрукавання і Дню бібліятэк Беларусі.

8, 12 і 14 верасня ад 14:00 да 16:00 ва ўстановах культуры і адукацыі горада будуць працаваць інтэрактыўныя пляцоўкі з удзелам паэтаў, журналістаў, аўтараў-выканаўцаў, краязнаўцаў.

20 верасня ў 15:00 у вілейскім Цэнтры эстэтычнага выхавання пачнецца конкурс сярод аўтараў-выканаўцаў і калектываў аўтарскай песні. Адбудзецца творчая майстэрня з удзелам членаў журы.

22 верасня тут жа зладзяць яшчэ адзін конкурс. На гэты раз сярод чытальнікаў і калектываў мастацкага чытання.

Заключнае мерапрыемства фестывалю адбудзецца ў вілейскім палацы культуры. 30 верасня ў 11:00 тут будзе урачыстае закрыццё фестывалю і гала-канцэрт.

**Аддзел інфармацыі.**

# Выйшла кніга, якая разбурыць міфы вакол культуры піцця

ВАЛОЖЫН

**Падаецца, ну што можна расказаць пра спіртныя напоі і ці варта ўвогуле расказваць? Людзі з чаркамі ўвогуле б запярэчылі: што тут гаварыць – налівай ды пі.**



Фота http://zviazda.by

Валожынец **Алесь Белы** робіць амаль немагчымае: спрабуе адарваць людзей ад сталоў і прыемных бясед за імі і заве ў падарожжа па алкагольным свеце нашых продкаў з кнігай "Сакатала бочачка".

Гэта зборнік займальных, але гістарычна праўдзівых нарысаў, прысвечаных самым знакавым алкагольным напоям нашай краіны. У большасці выпадкаў – цалкам забытым, адкінутым як "чужынскія".

– Першыя радкі кнігі былі напісаны 18 гадоў таму, – піша ў прадмове аўтар. – За гэты час "алкагольна-гістарычныя" нарысы публікаваліся ў некаторых выданнях, але для гэтай кнігі былі істотна перапрацаваныя і дапоўненыя. Чытач атрымае ўнікальную ілюстраваную энцыклапедыю, надзейную крыніцу ведаў і вобразаў у гэтай "пікантнай" і мала знанай галіне айчыннай гісторыі.

### Маладая дзяўчына, як бочачка піва

Назва кнігі паходзіць ад старадаўняй беларускай народнай песні, у якой маладую дзяўчыну жартаўліва, але вельмі лірычна параўноўваюць з бочкай піва, якая нудзіцца ў піўніцы, імкнучыся "разліцца" і здаволіць смагу таго, каму прызначаная.

Жаночыя вобразы ў кнізе займаюць ці не цэнтральнае месца. Апроч маладой дзяўчыны з вясельнай песні, якая дала кнізе назву, гэта і какетка Тэлімена, за гонар якой уступіўся малады пан Тадэвуш з раздзелу пра пунш; гэта і дасведчаныя гаспадыні дому – прызнаныя майстрыхі варыць крупнік; безыменныя жанчыны, што ўслаўлялі ў песнях пшанічнае піва. І нават па-жаночаму эмацыйная рабіна.

**Што ж, свет алкагольных напояў – гэта пераважна мужчынскі свет, але вобразы тут пануюць жаночыя.**




Фота забяспечана Алесем БЕЛЫМ.

Вокладка кнігі Алеся Белага "Сакатала бочачка".

### Кніга, у якой галоўныя героі – спіртныя напоі

Крупнік і старка, шампанскае і такай, пітны мёд і розныя налiўкі ды настойкі – ад зуброўкі і рабінаўкі да "калмусоўкі" і "жанікі", а таксама пшанічнае піва, самагон, экзатычны посуд для піцця і іншае – вось галоўныя "героі" гэтай унікальнай кнігі.

Зрэшты, папулярныя і экзатычныя напоі ў кнізе – гэта хутчэй нагода, як у сапраўднай добрай бяседзе. Нагода для гутарак пра нашу гісторыю, літаратуру, пра вайну і мір, пра сяброўства і каханне.

### Чытаць гісторыю спіртнога, як дэтэктыў

Кніга ў вялікай ступені прысвечаная разбурэнню міфаў і стэрэатыпаў, якія ўкараніліся ў нашым грамадстве вакол культуры піцця, напрыклад, вакол самагону і крамбамбулі. Яна аднаўляе сапраўдную гісторыю нашых алкагольных напояў, якая часам чытаецца як захапляльны дэтэктыў.

Вы будзеце бязмежна здзіўлены, наколькі бясконца разнастайным быў гэты страчаны свет у параўнанні з сучаснасцю.

Сучаснае становішча на айчынным рынку алкагольнай прадукцыі, з відавочным адрывам ад векавых традыцый нашай зямлі, падаецца аўтару цалкам абсурдным і ганебным. У якой іншай краіне замест сваіх гістарычных напояў, тых жа старкаў, крупніка, зуброўкі ды іншых уласных спецыялітэтаў з вельмі глыбокімі і маляўнічымі мясцовымі традыцыямі, дадумаліся б рабіць стаўку на мясцовы разліў віскі, тэкілы, кальвадосу? Дзеля нібыта "імпартазамяшчэння".

Здавалася б, мусіла дзейнічаць зусім іншая логіка: іншаземныя напоі ўсюды цэняцца менавіта за аўтэнтычнасць, ніхто не думае разліваць іх у краіне-імпарцёры і тым больш – ствараць ім фальшывую мясцовую генеалогію. Такія напоі імпартуюць з краін іх гістарычнага паходжання, прадаюць дорага і аднолькава няшмат.

Затое ў сябе шануюць мясцовыя прадукты, з яскравым гістарычным радаводам. У нас, на жаль, такая логіка не дзейнічае. У першую чаргу менавіта таму, што не ведаюць гісторыі сваёй зямлі. Таму ставяць нямецкую крамбамбулю па-над сваім крупнікам, а кельцкае віскі – па-над сваёй старкай. З лёгкай душой саступаюць правы на зуброўку рускім і палякам. Але, можа быць, чытачы гэтай кнігі задумаюцца ды сваёй неабыякавасцю дапамогуць змяніць гэтае вартае жалю становішча?

Прачытайце і пераканайцеся: "Сакатала бочачка" – вытанчаны і ап'яняльны шлях да разумення сімвалаў і міфаў нашай гісторыі. І не толькі алкагольных напояў.

**Паводле прадмовы да кнігі Алеся Белага "Сакатала бочачка".**

# Чый герой Фёдар Маркаў?

## За трох забітых партызанамі немцаў расстралялі амаль 2 000 мясцовых

МАЛАДЗЕЧНА

**Даведаўшыся пра сапраўдныя факты з жыцця Фёдара Маркава, немагчыма раўнадушна глядзець на сілуэт яго помніка. Для мяне ён стаіць, як напамін пра тое, што на самой справе адбывалася ў нашай мясцовасці ў час вайны.**

Ёсць у Маладзечне бадай адна з найпрыгажэйшых вуліц горада, якая злучае вуліцы Язэпа Драздовіча, ранейшую Калініна, і Машэрава, ранейшую Жданава. Пасярэдзіне вуліцы размешчаны шырокі, метраў на пяць, тратуар, абсаджаны з абодвух бакоў па два рады паўвекавымі ліпамі. Часта па ім прагульваюцца з каляскамі маладыя мамы. Далей, абапал тратуара, праходзяць дзве праезныя часткі па дзве паласы руху ў супрацьлеглых бакі. За імі ў абодва бакі яшчэ па раду паўвекавых ліпаў. За ліпамі зноў па краях два тратуары. Уся забудова вуліцы выкананая ў выглядзе невялікіх двухпавярховікаў, за выключэннем двух невялікіх пяціпавярховак. Не вуліца, а, хутчэй, бульвар. І праязджаць зручна, і прайсціся ў цені ліпаў прыемна.

Пры канцы вуліцы якраз насупраць цэнтральнага ўваходу ў гарадскі парк на велічным двухметровым пастаменце з чорнага граніту ўзвышаецца помнік асобы, імем якога і названая вуліца. На помніку надпіс: "Герой Советского Союза Ф.Г. Марков". Нельга проста так прайсці міма помніка, не зачапіўшы яго вокам. Помнік не проста ўжо больш за паўвека велічна звяртае на сябе ўвагу пры выхадзе з парка, ён з'яўляецца дамінантай усёй вуліцы. Заўсёды ля помніка ляжаць кветкі – і жывыя, і штучныя.

Хто ж ён такі, былы савецкі партызан Маркаў Ф.Р., чым так адзначыўся, што яго імем названа вуліца, за якія заслугі атрымаў зорку "Героя"? Не кожнаму ж герою ставяць помнікі.




Помнік Фёдару Маркаву ў Маладзечне.

**Ці многія маладзечанцы ведаюць пра Фёдара Маркава больш таго, што ён у вайну быў знакамітым партызанам, а пасля вайны – намеснікам старшыні Маладзечанскага аблвыканкама.**

Пра такія знакавыя фігуры, іх жыццё і ўчынкі заўсёды хочацца ведаць больш. І пры іх даследаванні выявіліся цікавыя рэчы.

### КПЗБ, Лукішская турма, партызан

Нарадзіўся **Фёдар Рыгоравіч Маркаў** 24 снежня 1914 года ў вёсцы Качанішкі, Уценскага павета. Бацька быў цясляром. Вучыўся Фёдар стаў у Свянцянскай (цяпер – Швянчоніс у Літве) настаўніцкай гімназіі імя Юзафа Пілсудскага. У гімназіі падпаў пад уплыў левых ідэяў, чытаў забароненую літаратуру. У 1934 годзе ўступіў у КПЗБ, а ў 1936 годзе быў арыштаваны польскай паліцыяй і асуджаны за антыдзяржаўную дзейнасць. Тэрмін адбываў у лагеры "Бяроза Картузская", затым – у Лукішскай турме. Вызвалены ў верасні 1939 года.

Новай уладай адразу быў прызначаны старшынёй Свянцянскага райвыканкама. З пачаткам вайны эвакуіраваўся на ўсход. У хуткім часе, закончыўшы курсы ў школе дыверсантаў, быў закінуты ў Пастаўскі раён для арганізацыі дыверсійнай дзейнасці.

Аб пачатку сваёй дзейнасці Маркаў пакінуў успаміны, якія ўвайшлі ў кнігу аб партызанах Беларусі. Напрыклад, дыверсійная група з некалькіх чалавек ноччу знянацку напала на часавога нямецкай камендатуры, забіўшы якога, да раніцы ўжо былі за 20-30 км ад месца нападу, пераадолеўшы адлегласць на конях. Пры тым Маркаў з гонарам апавядаў, што немцы, дзякуючы іхняй тактыцы, не маглі іх злавіць.

**Ні слова аднак не сказана аб выніках такой дзейнасці, аб тым, што нацысты за аднаго свайго забітага каралі смерцю ні ў чым не вінаватых жыхароў бліжэйшых вёсак.**

16 верасня 1941 года начальнік штаба вярхоўнага камандавання вермахта Вільгельм Кейтэль выдаў загад, паводле якога кожны нямецкі салдат, забіты падчас партызанскіх нападаў на акупаванай тэрыторыі СССР, мусіў быць адпомшчаны крывёю "50-100 камуністаў".

### Свянцанская справа – жудасная цана за трох немцаў

Вельмі гучную вядомасць набыла "свянцянская справа". 20 мая 1942 года невялікі партызанскі атрад пад камандаваннем Фёдара Маркава знаходзіўся ў засадзе на шашы Свянцяны – Лынтупы. У той дзень партызаны расстралялі нямецкі аўтамабіль, які ехаў без аховы. Як высветлілася, ахвярамі аказаліся два высокапастаўленыя нямецкія чыноўнікі – гебітскамісар Вілейскай акругі генерал **Ёзэф фон Бек** і яго памочнік, начальнік жандармерыі, **Вальтэр Груль**, а таксама яшчэ і афіцэр вермахта.

Па сведчанні ўдзельніка той баявой аперацыі, былога афіцэра Чырвонай арміі В. Саўулевіча, забітых распранулі, з пальца фон Бека знялі залаты пярсцёнак з брыльянтам, які затым перадалі стрыечнаму брату Фёдара Маркава **Васілю** "для обмена на продукты". Марадзёрства ў партызан лічылася звычайнай справай. У адказ немцы ў той жа дзень ўзялі ў закладнікі 200 жыхароў бліжэйшых вёсак Шудаўцы і Лынтупы, расклеілі лістоўкі з патрабаваннем здацца тым, хто расстраляў генерала, абяцаючы ў такім выпадку адпусціць затрыманых. Дарэмна. Немцы пакаралі невінаватых людзей. Гебітскамісар Вільні загадаў літоўскай паліцыі расстраляць 400 палякаў са Свянцян.

**Жадаючы выслужыцца перад немцамі, літоўская паліцыя расстраляла дадаткова 1200 чалавек са Свянцянаў і ўсяго раёна – інтэлігенцы і простых жыхароў.**

Затым па сваёй ініцыятыве расстралялі яшчэ 150 вязняў-палякаў з Лукішскай турмы ў Вільні. Цяжка не толькі ўявіць сабе, але нават падумаць, які жах адчувалі людзі, нашы простыя цывільныя грамадзяне, якія сталі пад руламі аўтаматаў і разумелі, што для іх усё скончана.

Такая жудасная была цана за трох забітых немцаў.

Выпускнік школы НКУС **Раманаў** успамінаў:

**"Нас обучали провоцировать немцев, чтобы они совершали большие преступления и таким образом увеличивали количество партизан".**

За гэту акцыю Фёдар Маркаў быў узнагароджаны і ўзначаліў атрад імя Суворава. Пазней на базе атрада ўзнікла брыгада імя Варашылава, якая дзейнічала ў Нарачанскай партызанскай зоне на мясцовасці Пастаўскага, Мядзельскага і прылеглых раёнаў.

**Сяргей КАСМАЧ,**
**Маладзечна.**
**Працяг будзе.**

● КАЛЯНДАР

### 25 ЖНІЎНЯ

**1920.** Чырвоная Армія прайграла бітву пад Варшавай.

**1932.** Нарадзіўся пісьменнік і паэт **Пятрусь Макаль** (пам. 1997).

**1991.** Нададзеная сіла канстытуцыйнага закону Дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі.

**1953.** Нарадзіўся пісьменнік **Уладзімір Арлоў**.

### 26 ЖНІЎНЯ

**1943.** Савецкія партызаны пад кіраўніцтвам **Фёдара Маркава** захапілі базу атрада Арміі Краёвай паручніка **Антона Бужынскага** (псеўданім "Кміціц") у раёне возера Нарач, абяззброілі яго, а затым расстралялі Кміціца, 56 партызанаў і 20 польскіх падпольшчыкаў. Да гэтага часу у Маладзечне і Вілейцы імя Ф.Маркава носяць вуліцы, у Маладзечне ўстаноўлены яго бюст.



**1962.** У Маркаве пад Маладзечнам нарадзілася **Таццяна Сапач** (Дубавец). Беларуская паэтка, журналістка, перакладчыца. Яе вершы перакладаліся на англійскую, літоўскую, рускую і польскую мовы. Аўтарка зборнікаў паэзіі "Восень" (1992) і "Няхай не пакіне нас восень" (2008). Жыла ў Гомелі, Мінску, Вільні, дзе заўсёды станавілася адным з арганізатараў беларускіх ініцыятыў. Вяла ўласную перадачу на літоўскім тэлебачанні. Трагічна загінула ў аўтакатастрофе ў 2010 годзе. Пахаваная ў Маркаве.

### 27 ЖНІЎНЯ

**1884.** У Вільні нарадзіўся літоўскі паэт і грамадскі дзеяч **Людас Гіра**. Сярод іншага вядомы тым, што пісаў вершы і на беларускай мове. Памер у 1946 годзе.

### 28 ЖНІЎНЯ

**1951.** У вёсцы Слабодка Астравецкага раёна нарадзіўся графік і жывапісец **Віктар Александровіч**. Творы мастака знаходзяцца ў музеях Мінска, прыватных калекцыях.

### 29 ЖНІЎНЯ

**2008.** Грузія разарвала дыпламатычныя стасункі з Расіяй.

### 30 ЖНІЎНЯ

**1579.** Войскі Рэчы Паспалітай на чале са Стэфанам Баторыям вызвалілі Полацк ад маскоўскіх захопнікаў.

**1939.** У Польшчы аб'яўленая ўсеагульная мабілізацыя.

**1954.** Нарадзіўся **Аляксандр Лукашэнка**, першы прэзідэнт Беларусі.

Падрыхтаваў
**Мікола ГАЙДУК.**

# “У школьнай праграме ёсць лішні прадмет. Матэматыка”

МАЛАДЗЕЧНА

**Напярэдадні пачатку новага навучальнага года ўсе актыўна абмяркоўваюць у колькі павінны пачынацца ўрокі, што апранаць дзіцёнку ў школу і якую адзнаку яму паставіць.**

Па гэтым пытанні выказваюцца ўсе: міністры і настаўнікі, бацькі і бабулі з дзядулямі. Забыліся запытацца толькі ў саміх дзяцей, як ім зручна, чаго ім хочацца.

Таму мы вырашалі пагутарыць з шасцікласніцай **Аляксандрай Каваленкай** і паслухаць, што самі школьнікі думаюць пра ўсе віды зьмяненняў, якія навіслі над іх галовамі.

– Я лічу, што аднолькавая школьная форма для ўсіх – гэта сумна. Нашмат цікавей, калі ўсе разнастайныя, не падобныя адзін да аднаго. І хочацца, каб наша школа не была падобная на гімназію.

Сама Аляксандра аддае перавагу штанам, жакетам і блузам.

– Спадніцы я не люблю.

**– Чаму?**

– (Пасля паўзы) Таму што.

І дадала, што у школе вельмі няўдалыя крэслы. Калгот хапае на адзін дзень, яны чапляюцца за крэслы і рвуцца. Таму ў штанах хадзіць на заняткі больш практычна.

Аднак Сашы здаецца цікавай ідэя, каб адзін клас насіў нейкі пэўны элемент аддзення, які б адрозніваў вучняў 6 “А” ад вучняў 6 “Б”.

– Каб я была дызайнерам адзення, я б сваймў класу прапанавала насіць, напрыклад, камізэлькі або жакеты, каб адрозніваца ад іншых.

Цікавым элементам адзення, на думку 13-гадовага эксперта, з’яўляюцца фартухі са школьнай формы савецкіх часоў.

– Я бачыла на фотаздымку, што маміны выпускніцы ( а мама ў Сашы настаўніца) ў аднолькавых сукенках і белых фартухах. Такую б форму я таксама насіла.

**– Аляксандра, з гэтага навучальнага года ўрокі будуць пачынацца а 9 гадзіне. Гэта добра?**

– Я цяпер буду вучыцца ў другую змену, але лічу, што не трэба, каб урокі ў першую змену пачыналіся пазней. Таму што тады ўрокі будуць і пазней заканчвацца. А, значыць, вольнага часу будзе меней. А ўставаць у 7 раніцы можна прывыкнуць. Я прывыкла, мяне тата будзіў.

**– Саша, раскажы пра свой распарадак дня.**

– Я прыходжу са школы, кідаю партфель і бягу ў музычную школу. У 18.00 вяртаюся, раблю ўрокі. Калі хапае часу, гуляю з сябрамі на вуліцы. Любімая гульня хованкі або карты. Яшчэ займаюся сучаснымі танцамі, хаджу ў школьны гуртoк, па суботах хаджу ў хор.

**– Аляксандра, як ты лічыш, які прадмет у школе непатрэбны і якога не хапае?**

– Лішні прадмет – матэматыка. Яшчэ я не люблю прадмет “Мастацтва”, бо яго вельмі сумна выкладаюць. Хаця, калі разабрацца, усе прадметы патрэбныя, а што б я яшчэ хацела вывучаць, я не ведаю. Мне дастаткова таго, што ёсць. З гэтага года ў мяне будуць новыя прадметы: біялогія, геаграфія і інфарматыка. Думаю, што інфарматыку я палюблю.

**– А цяпер, які прадмет любімы?**

– Англійская мова. Мы ў мінулым годзе праходзілі выразы, як патлумачыць іншаземцу, як прайсці куды-небудзь. І як самому не заблудзіцца за мяжой. Калі б я паўтарыла, то магла б патлумачыць.

Мама ў Аляксандры – выкладчыца англійскай мовы. І яна разам з дачкой ладзяць дома вечары англійскай мовы. Гэта калі ўвесь вечар уся сям’я размаўляе па-англійску.

– А мама мне не дапамагае зусім з невядомымі англійскімі словамі. Кажа, што гугл мне ў дапамогу.

**– Саша, а што ты думаеш наконт вяртання да пяцібальнай сістэмы адзнак?**

– З аднаго боку – гэта добра. Бо хоць я і выдатніца, але мне ставяць 9 і 10. А была б 5-бальная сістэма, ставілі б адны пяцёркі. А з іншага боку: шэсць па прадмеце гучыць не так страшна, як тры. Хаця і за тройку, і за шасцёрку мама б ругала аднолькава.

**– А ці трэба ставіць калы і двойкі?**

– Без іх не абысціся. Калі б я была настаўніцай, то спачатку двойку б не ставіла. Проста казала на наступны раз прынесці два выкананых заданні. Ну а калі вучань ні з пятай, ні з дзясятай спробы не разумее, то трэба ставіць тады калы і двойкі.

**– Ці задаволеная ты працягласцю канікул?**

> **– Я б пасярод навучальнага года дадала яшчэ тыдзень канікул, дзе-небудзь зімой. А летнія канікулы нават задоўгія.**

Я ўжо засумавала і па сябрах, і па настаўніках, і па вучобе. Па матэматыцы толькі не засумавала. І чакаю, калі апрану свой новы сіні касцюм. Мне сёлета вельмі прыгожы касцюм купілі. Абавязкова класнаму кіраўніку буду несці букет кветак. Гэта традыцыя. Астатнім любімым настаўніцам – шакаладку.

Саша падчас размовы ўспомніла, што ёй яшчэ не падабаецца ў школе. Аказваецца тое, што задаюць на лета чытаць кніжкі.

– Я прачытала палову “Дзяцей капітана Гранта”. Яшчэ трэба прачытаць “Аповесць пра сапраўднага чалавека”.

**– Паспееш прачытаць да пачатку навучальнага года?**

– Аўдыёкнігу паслухаю.

**– Чым шасцікласнікі займаюцца на перапынках?**

– Бегаюць і сядзяць у тэлефоне. Я першую палову перапынку бегаю, настаўнікі пачынаюць сварыцца, тады сядзю ў “Кантакце”. У сталовую хаджу.

**– Смачна кормяць?**

– Не, катлеты несмачныя. Самы лепшы абед для мяне быў бы сасіскі з пюрэ. І сок, а не какавы напой. Ён таксама несмачны.

А пасля ўрокаў, расказвае Саша, яны з сябрамі гуляць у хованкі, едзяць на роварах, куляюцца на турніках.

– Усё ж гэта весялей, чым сядзець у тэлефоне, – падсумавала Аляксандра Каваленка, 13-гадовы эксперт у школьнай адукацыі.



Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)



Фота Наталлі ТУР.

Аляксандра Каваленка лічыць, што аднолькавая школьная форма для ўсіх– гэта сумна. А вось элемент, які б адрозніваў адзін клас ад другога – гэта добрае рашэнне.

## А як у іншых?

Пакуль ідуць размовы пра магчымае вяртанне да пяцібальнай сістэмы адзнак у Беларусі, мы паглядзелі, як ацэньваюць веды вучняў у іншых краінах.

У ЗША і шэрагу іншых краін выкарыстоўваецца алфавітная сістэма адзнакаў. У такой сістэме літарамі “A”, “B”, “C” і “D” пазначаюць балы ў парадку пагаршэння. Ролю нездавальняючай ацэнкі звычайна выконвае “E” або “F”. У карысць першай кажа алфавітны парадак, другая – зразумелае скарачэнне ад fail (правал).

Алфавітнай сістэмай адзнак, акрамя ЗША, карыстаюцца ў Ганконгу, Інданезіі, Афганістане, сярэдніх школах Паўднёвай Карэі, некаторых школах Бразіліі.

Самыя распаўсюджаныя сістэмы адзнакаў у свеце, вядома, лічбавыя, ад 5 да 100 балаў.

Стобальную сістэму выкарыстоўваюць Ірак, Палестына, Коста-Рыка, Нікарагуа. Дваццацібальная сістэма ў Бельгіі, Венесуэле, Ліване, Перу і старэйшых класах Партугаліі.

А ў Албаніі, В’етнаме, Грэцыі, Ісландыі, Іспаніі, Італіі, Калумбіі, Латвіі, Літве, Мексіцы, Малдове, Нідэрландах, Румыніі і Эквадоры, таксама як у Беларусі – дзесяцібальная сістэма.

Пяцібальнай сістэмай карыстаюцца ў Венгрыі, Кіргізіі, Македоніі, Парагваі, Сербіі, Турцыі, Харватыі. А ў Аўстрыі, Германіі, Славакіі і Чэхіі пяцібальнай шкала перавернутая: “адзінка” – лепшая ацэнка.

А наша суседка, Украіна, выкарыстоўвае 12-бальную сістэму адзнак.

Але, мабыць, самая дзіўная сістэма адзнак у Даніі. Тут у ходзе рэформы 2007 года выкінулі з 13-бальнай сістэмы “непатрэбнае” і злёгку перамяшалі, каб прасцей суадносіць з алфавітнай сістэмай. Праўда, пытанне, для каго прасцей? У Даніі засталіся сем ацэнак: “12”, “10”, “7”, “4”, “02” і дзве нездавальняючыя адзнакі: “00” і “-3”.

**По матэрыялах інтэрнэту.**

# Штогадовы медагляд – у месяц нараджэння дзіцяці, а не перад школай

**Перад святочным 1 верасня многія бацькі імкнуцца паспець зрабіць медагляд да школы, пры гэтым разгубленна спрабуюць высветліць адзін у аднаго, якіх дактароў і ў якой чарговасці варта праходзіць.**



Фота BabMama.

Калі бацькі прывучацца праходзіць агляд у месяц нараджэння дзіцяці, ажыятаж у паліклініцы перад школай будзе значна меншы, а паход да доктара і для мамы ці таты, і для сына ці дачкі – больш прыемным.

Пра тое, як і калі правільна прайсці медагляд, удакладняла загадчыца Маладзечанскай дзіцячай паліклінікі **Інна Саўчык** і доктар-педыятр **Аксана Астапкевіч**.

### Чаму агляд – у месяц нараджэння

Медагляд варта праходзіць у месяц нараджэння дзіцяці. Калі, напрыклад, дзіця нарадзілася ў красавіку, вы ў любы з дзён гэтага месяца ідзяце з дзіцем на прыём да свайго ўчастковага педыятра. І ён па картцы ўбачыць, якія аналізы неабходна здаць, а якіх спецыялістаў прайсці.

Гэты пералік залежыць ад узросту дзіцяці, індывідуальных асаблівасцяў і іншага.

> **Адмыслова перад школай праходзіць медагляд няма патрэбы: даведка, выдадзеная па яго выніках, дзейнічае год.**

І калі вы прайшлі медагляд у красавіку, паўтараць у жніўні не варта. А вось праз год зноў звярнуцца да педыятара наконт медагляда трэба абавязкова.

Медыцынскія работнікі звяртаюць увагу, што просьба праходзіць медагляд у месяц нараджэння дзіцяці існуе не проста так. Такім чынам нагрузка на паліклініку кладзецца раўнамерна, прасцей і бацькам з дзецьмі, і медыцынскаму персаналу.

Зусім іншая карціна атрымліваецца, калі бацькі летніх дзяцей, а часам і вясенніх, пра агляд забываюць, і дружна ідуць у паліклініку ў канцы жніўня, перад школай. Уявіўшы сабе гэтую карціну, напэўна, больш не захочаш спазняцца з аглядам.

Педыятар, да якога прывялі дзіця, бачыць, што для яго ўзросту трэба прайсці па графіку. І калі Каці трэба прайсці трох дактароў і здаць аналіз крыві, то Жэні, магчыма, спатрэбіцца пяць, а аналіз не трэба.

Так адбываецца, таму што, магчыма, Каця ўжо прайшла некаторых дактароў па іншых прычынах, а Жэня здаваў аналізы падчас хваробы. Таму ўвесь аб'ём агляду можа вызначыць толькі ўчастковы педыятар па картцы.

– Перад заканчэннем навучальнага года бацькам нагадалі, каб летніх дзяцей не забылі прывесці на агляд, – кажа Аксана Астапкевіч. – Некаторыя забылі, і летнія ідуць у апошнія дні жніўня.

– Дзіця нарадзілася ў кастрычніку – вось і праходзьце ў кастрычніку, не трэба ісці ў верасні, – удакладняе загадчыца паліклінікі. – І даведка будзе дзейнічаць да наступнага кастрычніка.

Па выніках агляду педыятар выдае даведку, ў якой указаная група здароўя, група па фізкультуры, рэкамендацыі па рассаджванні, харчаванні, наведванні басейна, алергалагічны анамнез.

### Ці трэба агляд для спартыўнай секцыі

Для спартыўных секцый, для мастацкай школы, для музычнай школы бацькам можна зняць ксеракопію з даведкі па выніках медагляду, або прыйсці па спецыяльную даведку да педыятара.

Калі дзіця праходзіла агляд у маі, то ў верасні даведка актуальная.

### Як прайсці гінеколага

Калі педыятар кажа прайсці гінеколага, то мама са сваім пашпартам ідзе ў жаночую кансультацыю на прыём. Там дзяўчынак чакае толькі знешні агляд.

Гэты агляд надзвычай важны, таму што падчас яго часам заўважаюць спайкавыя паталогіі, вульвіты, інфекцыі мочавыводзячых шляхоў, ці што нешта няправільна фарміруецца.

Здараецца, дзяўчынка часта хварэе і прымае антыбіётыкі, з-за гэтага парушылася флора і ўтварыліся спайкі.

Безумоўна, дзяўчынцы перад прыёмам неабходна зрабіць гігіенічныя працэдуры, а маме варта да прыёму падрыхтаваць яе псіхалагічна.

### Вы хадзілі да неўролага? Можа і нам трэба?

У школе могуць памерыць вагу і рост, вызначыць вастрыню зроку, зрабіць прышчэпку. А вось медагляд праходзяць толькі ў паліклініцы.

– Самае галоўнае, гэта каб бацькі зразумелі, што аб'ём агляду вызначае доктар, – кажа Інна Саўчык. – Я сама чую, як гавораць дзве мамы: "Вось неўролага прайшлі" – "А можа і нам трэба неўролаг? Ай, схаджу!". Вам што трэба, проста каб штампік паставілі?

> **Паважаныя мамы, стан здароўя дзіцяці ад штампіка ніяк не зменіцца.**

Аксана Астапкевіч прыгадвае іншую гісторыю:

– Прыйшла да мяне скардзіцца мама. Ім трэба даведка ад артапеда, яны ў ліцэй паступалі, а ў рэгістратуры не выдалі талон. Я кажу, што раз паступалі, то, напэўна, там аглядаў артапед. Падымаем картку – у ёй сёлета агляд артапеда ёсць. Ніякіх праблем, проста пайсці да педыятра і выпісаць даведку. Маці сама вырашыла, што ёй трэба да артапеда.

Канешне, калі вы не ўзялі даведку ў сакавіку ці маі, то ў новым навучальным годзе дзіця не маюць права дапусціць да ўрокаў фізкультуры, таму што ў хлопчыка ці дзяўчынкі не вызначаная група здароўя і група па фізкультуры.

> **Акрамя іншага, медыкі нагадваюць – агляд стаматолага трэба рабіць штогод, і пра гэта варта клапаціцца самім бацькам.**

Медыцынскія работнікі мяркуюць, што з цягам часу бацькі зразумеюць: штогадовы медагляд у месяц нараджэння дзіцяці – гэта правільна і лагічна.

Сістэма ўпарадкуецца, што аблегчыць і працу дактароў, і паход у паліклініку з дзецьмі.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

---

## У "Зубраняці" адпачываюць дзеці з Сірыі

**МЯДЗЕЛ**

Па запрашэнні кіраўніка дзяржавы ў Беларусь 14 жніўня для аздараўлення прыляцелі 80 дзяцей з Сірыі ва ўзросце ад 8 да 14 год.

З іх 40 чалавек прыехалі ў Нацыянальны дзіцячы адукацыйна-аздараўленчы цэнтр "Зубраня".

Праграма знаходжання дзяцей вельмі насычаная. Кожны дзень распісаны літаральна па хвілінах: пад'ём, зарадка, экскурсіі, медыцынскія працэдуры. Першай экскурсіяй стала наведванне агратурыстычнага комплексу "Наносы-Наваселле". Тут дзецям распавялі, як і з чаго раней пяклі хлеб, для чаго патрэбны самавары і чым займаліся беларусы некалькі стагоддзяў таму.

Спецыяльна для гасцей выканалі беларускія нацыянальныя песні. Затым прайшлі майстар-класы па працы з глінай і дрэвам, дзе кожны мог знайсці занятак па душы.

"Сірыйскія дзеці любяць гуляць, бегаць, займацца спортам, у прыватнасці, праяўляюць вялікую цікавасць да футбола.

Асаблівa ім падабаецца катацца на роварах. Але ў сябе дома не ўсе могуць сабе гэта дазволіць. Дзеці хочуць пазнаваць нешта новае, вучыцца", – распавёў выхавальнік НДААЦ "Зубраня" **Арцём Семянец**.

**Паводле БЕЛТА.**

---

## Восенню канікулы будуць максімальна доўгімі

Справа ў тым, што 7 лістапада – выхадны дзень і выпадзе ён у гэтым годзе на аўторак.

Таму восеньскія канікулы будуць доўжыцца ажно 10 дзён з 29 кастрычніка (нядзеля) па 7 лістапада ўключна, інфармуе Мінадукацыі. Але і субота 28 кастрычніка, імаверна, будзе для часткі дзяцей выхадным.

Звычайна асеннія канікулы доўжацца тыдзень, але ў 2016 годзе яны складалі дзевяць дзён, бо 7 лістапада было ў панядзелак.

Зімовыя канікулы будуць працягвацца ад 24 снежня (нядзеля) па 7 студзеня (нядзеля).

Вясновыя – ад 25 сакавіка і да 1 красавіка ўключна.

Для вучняў 1 і 2 класаў ад 12 па 18 лютага прадугледжаныя дадатковыя канікулы.

**Паводле сайта Мінадукацыі.**

ШАХМАТЫ З ВІТАЛЁМ КАЧАТКОВЫМ

# Як ферзь з самай слабай фігуры стаў самай моцнай

Што мы ўжо ўмеем і што ведаем? Ведаем, як ходзяць і б'юць фігуры, як выглядае дошка, шахматную натацыю.

Знайшлі і паглядзелі фільм "Ахвяруючы пешкай", зарэгістраваліся на шахматным партале Chess.com, паглядзелі забаўныя відэа-лекцыі грасмайстра **Сяргея Шыпава.** І ўсё роўна не сталі грасмайстрамі? Не бяда – трэба час і цярпенне!

Уяўляеце, колькі цяпер магчымасцяў, звязаных з інтэрнэтам? Але пры гэтым грасмайстраў больш у Маладзечне не стала. Людзі спяшаюцца, распыляюцца на мітусню, ежу і жвачку, а ісціна засталася ў баку.

Пастаўце сабе задачу гуляць у шахматы кожны дзень хаця б некалькі партый. Калі няма жывога партнёра, гуляйце ў інтэрнэце. Варта згуляць 100 партый, каб нешта ўяўляць і пачаць штосьці бачыць на дошцы.

Мы ўжо ведаем, што такое дэбют, мітэльшпіль і эндшпіль. Ведаем, што трэба рабіць у дэбюце – змагацца і захопліваць цэнтр, развіваць з пачатковых пазіцый лёгкія фігуры да цэнтра, хаваць караля ў кут дошкі з дапамогай ракіроўкі. Мы ўжо ведаем, што ў шахматах ёсць кампазітары і эцюды!

А сёння пагаворым крыху пра гісторыю шахмат.

Шахматную легенду пра тое, як шэйх аддзячыў стваральніку шахмат, нейкаму мудрацу, зярняткамі, пераказваць не буду. Гэтая гісторыя вельмі вядомая, пабудаваная на арыфметычнай прагрэсіі, але ў яе час ад часу трапляюцца "прасцячкі", якія адносяць грошы ў "фінансавыя піраміды".

Асноўныя шахматныя правілы замацаваліся каля чатырох стагоддзяў таму. Радзіма шахмат – Індыя. Далей яны патрапілі ў Іран і Ірак, а пасля ў Еўропу і на нашы землі.

Самы стары з захаваўшыхся набораў шахмат быў знойдзены на выспе Люіс ў Паўночнай Шатландыі. Ён датуецца 12 стагоддзем нашай эры, і як мяркуецца, створаны ў Ісландыі або Нарвегіі.

Яго арыгінальнае выкананне паслужыла ўзорам для чароўных шахматных фігур ў фільме "Гары Потэр і філасофскі камень".

Спачатку ферзь мог рухацца толькі на адну клетку па дыяганалі, затым на дзве. Так працягвалася да таго часу, пакуль каралева Ізабэла Іспанская не загадала зрабіць ферзя, а ў Еўропе яго называюць каралевай, самай моцнай фігурай на дошцы. І з самай слабай фігуры ферзь стаў самай моцнай.

Другой кнігай, упершыню надрукаванай на англійскай мове, услед за апавяданнямі аб Траянскай вайне стала праца пра шахматы.

Ну і па традыцыі разбяром адну з пазіцый кнігі "Мат ў адзін ход".



Ход белых. Белая ладдзя кантралюе вертыкаль g. Палі f8 і f6 паблізу чорнага караля f7 ўзятыя пад абстрэл белым канём d7. Поле e6 адразае чорнаму каралю яго апанент на d5. А вырашае задачу белая пешка! 1. E6x!

Ход чорных. Белы кароль, хоць і ў цэнтры, але ў асяроддзі і сваіх, і варожых фігур. Па лініі С яго пільнуюць дзве чорныя пешкі b і слон e7 кантралююць поле C5. Па лініі Д той жа слон з E7 прабівае поле d6, а свой жа слон d4 забірае ў караля клетку для адступлення. Па лініі E беламу каралю перашкаджаюць чорны кароль f7, і свая ж пешка e5. А вырашае задачу напад па дыяганалі чорным сланом 1 ... Cf3x!

І, напрыканцы, некалькі дамашніх задачак для вырашэння з кніжкі-шахмацішкі "Мат ў адзін ход":

№97



№103



Ва ўсіх задачах і белыя, і чорныя пры сваім ходзе даюць мат. Поспехаў і да сустрэчы!



Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.



Фота Ганны ШЫМАНСКАЙ.

Удзельнікі велапаходу – 2017 каля помніку глыбоцкай вішні.

# Велапаход – 2017. “Мяне пазвалі – я і пайшоў”

МАЛАДЗЕЧНА

**Пра традыцыйны велапаход турысцкага клуба “Пілігрым” “Рэгіянальнай газеце” расказаў яго сёлетні ўдзельнік Аляксандр Лабецкі.**

Сашу 18 гадоў. І ў сёлетні паход ён пайшоў упершыню.

– Мы на роварах праехалі амаль 300 кіламетраў, – расказвае Саша. – Падчас падарожжа наведалі шмат месцаў, звязаных з Першай Сусветнай вайной.

Група, у якую ўвайшлі восем чалавек, традыцыйна наведала Забродздзе, Смаргонь, Нарач.

– Упершыню наведалі “Аптэкарскі сад” пад Мядзелем. Усім спадабалася, а я алергік, таму назіраў за раслінамі здалёк.

Велапаход доўжыўся 7 дзён.

– У кожным мястэчку, кожнай вёсцы, дзе мы былі, было нешта адметнае. Недзе прыгожыя азёры, недзе славутасці, а я цяпер дакладна ведаю, што ў Любані самыя смачныя булачкі. А ў Глыбокім мы трапілі на выставу трактараў. Таксама здзівіла і спадабалася.

Такія паходы, прызнаецца Аляксандр, не толькі ўмацоўваюць здароў’е, але і пашыраюць кругагляд.

– У нас у кампаніі быў дзядзька Валодзя, у якога на любы выпадак жыцця быў вершык. Вельмі цікава было з ім размаўляць.

Наконт планаў на будучы год, Аляксандр прызнаецца, што ўжо запланаваў чарговае велападарожжа.

– Да мора ж яшчэ даехаць трэба, а тут такая прыгажосць побач. І вада, і лазня, і сустрэчы с новымі, заўсёды цікавымі людзьмі.

**Наталля ТУР.**

# “Я раскайваюся і гатовы панесці пакаранне”

## Мікалая Рындзюка дыскваліфікавалі на два гады

СМАРГОНЬ

**Кантрольна-дысцыплінарны камітэт Беларускай федэрацыі футбола прыняў рашэнне дыскваліфікаваць экс-трэнера “Смаргоні” Мікалая Рындзюка на два гады. Усе члены камітэта прагаласавалі аднагалосна.**

Нагадаем, што зімой Рындзюка асудзілі на два гады папраўчых прац за дачу хабару былому дырэктару дэпартамента судзейства і інспектавання АБФФ **Андрэю Жукаву**.

Пракаментаваць сітуацыю Tribuna.com пагадзіўся сам Мікалай Рындзюк.

– Я раскайваюся і прымаю гэта пакаранне. Ведаў, што за крымінальным пакараннем услед рушыць і футбольнае. Цалкам падпарадкоўваюся рашэнням і суда, і кантрольна-дысцыплінарнага камітэта. У сувязі з гэтым хачу папрасіць прабачэння ў сям'і Андрэя Міхайлавіча Жукава (да жонкі падыходзіў падчас судовага пасяджэння), у сваіх блізкіх, ва ўсіх беларускіх заўзятараў, якіх падвёў, у кіраўнікоў “Смаргоні”, у людзей, якім я неабыякавы.

...Я вельмі перажываў за каманду. Той, хто сачыў за першай лігай, у курсе, як яна выступала. Мне здавалася, што ўся праблема ў суддзях. Вось і вырашыў падзякаваць за прызначэнне кваліфікаванага арбітра. Паўтаруся: я раскайваюся і гатовы панесці пакаранне...

**– Вы будзеце пісаць хадайніцтва аб змякчэнні пакарання?**

– Натуральна. Футбол для мяне – гэта не проста слова. Гэта вельмі вялікая частка майго жыцця... Думаю, я яшчэ змагу прынесці карысць беларускаму футболу.

**– Зімой з'явілася інфармацыя, што вы працуеце прадаўцом-кансультантам у краме сантэхнікі. Працягваеце працаваць на старым месцы?**

– Так, я не маю права не працаваць. Мне прысудзілі выпраўленчыя працы, і кожны месяц я павінен плаціць дзяржаве 25 працэнтаў ад свайго заробку.

**– Ці ёсць дамоўленасць з кіраўніцтвам «Смаргоні» аб тым, што вы вернецеся ў клуб пасля завяршэння дыскваліфікацыі?**

– Казаць пра гэта пакуль рана. Хоць і кіраўніцтва, і футбалісты, і заўзятары мяне падтрымліваюць. Заўзятары нават хацелі пісаць нейкі калектыўны ліст у маю падтрымку, але сказаў, што не варта. У сваю чаргу, я ўвесь час сачу за камандай...



Фота football.by.

Мікалай Рындзюк.

**– Кім вы сябе бачыце праз два гады ў футболе?**

– Пакуль буду адбываць пакаранне. Пройдзе палова тэрміну напішу хадайніцтва і буду спрабаваць вярнуцца ў трэнерства. Але разумею, што яшчэ год мне давядзецца адпачываць. Гэта мінімум. Але мне трэба працаваць, ёсць дзеля каго – у мяне трое дзяцей. Аднак у футбол я адназначна буду спрабаваць вярнуцца.

**Паводле by.tribuna.com.**



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Яго храмам лічылі прыроду, таму месцы яго пакланення будавалі без даху, каб ён быў бліжэй да чалавека. Менавіта ў яго Папа Рымскі пазычыў сякеру з двума лязамі як сімвал вярхоўнай улады.
4. Травяністая лекавая расліна; святаяннік.
5. Гімнастычнае практыкаванне, якое заключаецца ў пад'ёме цяжару.
7. "Майстэрня" па-лацінску.
10. Працяглая адсутнасць дажджоў летам, якая суправаджаецца моцным перасыханнем глебы і гібеллю раслін.
11. Французскі філосаф Гюй лічыў, што яна "чароўная казачная дзяўчына, у якой пры кожным слове вылятаюць з рота каштоўнасці".
12. Пагадовы запіс гістарычных падзей у старажытныя часы; кніга з такімі запісамі.
13. Паводле біблейскага падання – вялізнае марское страшыдла ці лятаючы дракон.
19. Рэдкая страва з дробных мучных камячкоў, згатаваных на вадзе або малацэ.
20. У Старажытным Рыме – пасол сената пры правіцелях правінцыя; намеснік.
21. Самец сёмгі ў перыяд нерасту.
22. Збудаванне для пад'ёму ўзроўню вады ў рацэ; плаціна, гаць.
24. Вытворчасцю і продажам чаго займаўся намецкі прадпрымальнік, які купіў у Аляксандра Пушкіна словы са сваіх твораў "Ясней за дзень, цямней за ноч".
26. Зваротны рух ствала ці ўсёй гарматы пасля стрэлу.
27. Далонь і пальцы рукі, складзеныя так, каб імі можна было зачэрпнуць або ўтрымаць што-небудзь.
30. Салодкая студзяністая страва, якая гатуецца з фруктова-ягадных сокаў, малака і іншых прадуктаў з дабаўленнем жэлаціну.
32. У нашай краіне іх найбольш грэчаскіх. Значна менш лацінскага, яўрэйскага і славянскага паходжання.
33. Службовец у панскім маёнтку, які кіраваў гаспадаркай.
34. Ускосны падатак на прадметы шырокага спажывання, які прадпрыемцы ўключаюць у прадажную цану тавару.
37. Што расце без кораня?

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Пры Іване 4 Жахлівым выпусцілі грошы, на якіх выява вершніка з дзідай ў руках. Як назвалі гэтыя грошы?
3. Чым з'яўляецца Фата-маргана, рэдкая складаная аптычная з'ява, якая ўзнікае, калі ў ніжніх слаях атмасферы ўтвараецца некалькі слаёў паветра рознай шчыльнасці. У выніку з'явы аб'екты даюць каля гарызонта некалькі скажонных выяў, якія часткова накладваюцца адно на другое, хутка мяняюцца ў часе.
4. Знак, метка, зробленая сякерай, нажом.
6. У старажытнарымскай міфалогіі – душы памёршых.
8. Вугал, які ўтвараецца ўзятым напрамкам руху і напрамкам на поўнач.
9. Вынік рашэння матэматычнай задачы, прыкладу.
14. Сталіца Йемена.
15. Месца, дзе ляжаць, хаваюцца гуртамі дзікія жывёлы.
16. Вёска ў Мядзельскім раёне на рацэ Малінаўцы, размешчаная недалёка ад Нарачы. У ёй захавалася драўляная касцёльная званіца 18 стагоддзя.
17. Пімен Панчанка: "Кажуць, мова мая аджывае Век свой ціхі: ёй знікнуць пара. Для мяне ж яна вечна жывая. Як раса, як ..., як зара.
18. Сукупнасць навакольных умоў; акружэнне.
20. Навука аб законах і формах мыслення.
23. Як "новы горад" перакладаюцца наступныя гарады: Нью-Ёрк, Неапаль, Нэйнбург, Вільнеў, Вамланаў. Назавіце яшчэ адзін, які знаходзіцца ў аднаіменнай фінікійскай сталіцы. Паводле легенды, горад заснавала царыца Дыдона, якая купіла ў мясцовых столькі зямлі, колькі пакрые бычыная скура. Яна разрэзала скуру на вузкія рамяні і , зрабіўшы з іх кола, завалодала вялікім участкам.
25. Першы стварылі ў фларэнційскім кляштары Сан Марко ў 16 стагоддзі. Лічыцца, што яго зрабілі з дрэва для больш эфектыўнага роспісу фігуры анёла. Значна пазней заўважылі, што ў крамах, дзе выкарыстоўваюць гэты прадмет, гандаль ідзе значна лепш.
28. Няшчасце, зло, бяда; гора.
29. Негустое, скразное вязанне, вышыванне, разьба.
31. Абяцанне, клятва не рабіць чаго-небудзь.
35. Сшытак або кніга з чыстымі лістамі для вершаў, песень, малюнкаў, фатаграфіі, паштовак.
36. Якім прадметам зацікавіўся асветнік Анджэй Снядэцкі, пахаваны ў Ашмянскім раёне, падчас навучэння ў прафесара Джозэфа Блэка.

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №33. ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. кераміка. 5. пакаленне. 7. стругач. 8. камандзірчык. 10. бранзалет. 11. клецы. 12. плаўнік. 13. вернасць. 15. каханоўскі. 17. мястэчка. 22. спас. 23. абаранкі. 24. маці. 26. вястун. 28. мумiё. 29. кафля.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 2. аркуш. 3. фіфа. 4. локшына. 6. каптан. 9. збіцень. 11. качар. 14. келіх. 16. луска. 18. ракаў. 19. каюк. 20. гута. 21. арэлі. 23. арцімовіч. 25. хіцін. 27. сячкарня. 28. мянтуз. 30. мядзведзь.

## ГАРАСКОП 25-31 ЖНІЎНЯ



**АВЕН.** Гэта час "Пустога сасуда" і "стан нуля", калі няма ніводнай думкі, якая б бударажыла фантазію. Стан апатыі карысны для расслаблення пасля нагрузкі, але не ўваходзьце ў яго, лепш плывіце па цячэнні. Цяпер можа адбыцца асэнсоўванне пройдзенага шляху, якое прывядзе да нейкай важнай падзеі.



**ЦЯЛЕЦ.** Цяпер немагчымае становіцца магчымым і нашмат бліжэй, чым калі б там ні было. У ваша жыццё можа вярнуцца чалавек, гісторыя з якім яшчэ не закончаная – у яе можа быць прыемны працяг. Вам ўдача будзе спадарожнічаць літаральна ва ўсім. Купіце латарэйны білет: можа, фартуна і тут вам усміхнецца.



**БЛІЗНЯТЫ.** Цяпер у вас спакойны перыяд, ён спрыяльны для таго, каб павышаць узровень прафесійнага майстэрства, вучыцца, наведваць семінары, курсы, выставы. Але сканцэнтруйцеся на паляпшэнні фінансавага становішча. Калі вы ўсё яшчэ адзінокія, каханне будзе стукацца да вас у дзверы. А калі маеце каханага, удзяліце яму або ёй больш увагі.



**РАК.** Гэта не лепшы час для пачынанняў, але сказаць як мага больш добрых слоў і падарыць усмешкі людзям, якіх вы любіце, – гэты вы зможаце дакладна. Наперадзе чакаецца паляпшэнне фінансавага становішча, магчымае павышэнне на працы. Выгадныя прапановы будуць сыпацца як з рога ўсяго многа.



**ЛЕЎ.** Вы ўдачлівыя, можаце апынуцца ў спрыяльнай сітуацыі, калі будзеце прыслухоўвацца да інтуіцыі і кіравацца сваімі інстынктамі. Калі вы падбіраеце новы аўтамабіль для сябе ці шукаеце іншую работу, то дзейнічайце – і вам усміхнецца фартуна.



**ДЗЕВА.** Вас чакаюць перамены, але якімі яны будуць, жыццё пакажа. Старайцеся быць у курсе ўсяго, вам гэта можа спатрэбіцца. Калі вам няма з кім пагаварыць ці пабыць проста так, ідзіце, напрыклад, у кафэ і шукайце зносін з незнаёмымі людзьмі або проста пачытайце добрую кнігу.



**ШАЛІ.** Не замыкайцеся ў сабе. Прымайце дапамогу і дапамагайце самі. Узнавіце даўно забытыя зносіны.



**СКАРПІЁН.** Трымайце вушкі на макушцы, каб не заблытацца ў патоку інфармацыі ці не ўгразнуць у чужых інтрыгах, пакольні далёкія ад такога роду дзейнасці. Сваю работу рабіце як мага больш якасна, акуратна і лепш. Гэта ў вашых інтарэсах. Інакш могуць узнікнуць праблемы ў працоўным калектыве.



**СТРАЛЕЦ.** У вас шмат часу забіраюць дамашнія праблемы, таму пастарайцеся хаця б не пладзіць іх. Час цікавы. Вы можаце стаць як растратчыкам, так і мільярдэрам.



**КАЗЯРОГ.** Не чакайце хуткага павелічэння даходаў, бяздумна не трацьце грошы. Каб схапіць удачу за хвост, настройцеся на поспех ва ўсіх пачынаннях.



**ВАДАЛЕЙ.** З'явіцца цяга да фінансавых эксперыментаў – гэта можа быць як захапленне латарэяй, так і жаданне заняцца работай. І калі латарэяй заняцца можна смела, то ад больш рызыкоўнага і кардынальнага лепш устрымацца.



**РЫБЫ.** Вашы эмоцыі адаб'юцца на агульным стане вашага здароўя і нават на фізічнай форме. Што рабіць – вы ведаеце.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | | | | 2 | | | | 3 |
| | 7 | | | | | | | 8 |
| 4 | | | | | 5 | | | |
| | 6 | | 7 | 3 | | | 8 | |
| | | | 9 | | 8 | | | |
| | 8 | | | 4 | 2 | | 7 | |
| | | | 4 | | | | | 1 |
| 9 | | | | | | | 5 | |
| 5 | | | | 9 | | | | 2 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



ISSN 1991-7155
9 771991 715006

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

## 26 жніўня, субота

| | Пятніца | | | Субота | | | Нядзеля | | | Панядзелак | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +12 / +21 | 740 | ↗ 4 | +14 / +17 | 740 | → 5 | +11 / +16 | 743 | ↘ 6 | +11 / +18 | 739 | ↑ 4 |
| Вільня | +13 / +17 | 743 | ↘ 9 | +14 / +18 | 746 | → 5 | +9 / +15 | 750 | ↘ 4 | +11 / +15 | 743 | ↖ 5 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с. Усход, захад па Маладзечне.

Усход 6.10
Захад 20.17
Даўжыня дня 14.07

Усход 11.32
Захад 22.21
Квадра 1

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +15 / +17 | 746 | → 7 |
| Гродна | +13 / +20 | 750 | → 7 |
| Мінск | +14 / +17 | 740 | → 5 |
| Магілёў | +12 / +19 | 746 | → 8 |
| Гомель | +15 / +21 | 749 | → 5 |
| Брэст | +12 / +23 | 750 | → 5 |

● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература +1,9 °C у 1987 годзе
Максімальная тэмпература +30,9 °C у 2015 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 27,1 мм у 2010 годзе
Паводле meteoinfo.by

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ВІЛЕЙЦЫ

# Якая сістэма адзнак лепшая – дзесяці- або пяцібальная?



**Юлія Чарняўская, маладая мама:**
– Лепш пяцібальная. А то дзеці крыўдзяцца на тое, што адзін атрымаў шэсць балаў, а другі – сем. А па сутнасці, гэта ж аднолькавая адзнака.



**Уладзімір Уліцкі, ахоўнік:**
– Дзесяцібальная лепш. Раней маглі паставіць толькі чатыры або пяць. А цяпер такі спектр – і восем, і дзевяць, і дзесяць. Мой сын сесію здаваў. Паздаваў на сямёркі. А калі б была пяцібальная сістэма, паставілі б тры. Сямёрка больш саліданая.



**Эдуард Мацюшонак, настаўнік, мастак:**
– Гэта вельмі сур'ёзнае пытанне. А я пакуль не настроены на яго сур'ёзна адказаць, бо яшчэ ў адпачынку, на працу ў школу не выходжу. Але лічу, што дзесяцібальная сістэма таксама не вельмі добра сябе зарэкамендавала. Дзеці любяць толькі ацэнкі "восем", "дзевяць" і "дзесяць".



**Таццяна Похіл, эканаміст-бухгалтар:**
– Лічу, што на вучобе дзіцяці змены сістэмы адзнак ніяк не адаб'юцца. Асаблівай розніцы не бачу. Аднак пяцібальная падаецца больш простая.



**Ігар Семашкевіч, індывідуальны прадпрымальнік:**
– Мне падаецца, што больш правільная дзесяцібальная сістэма. Настаўнік можа больш дакладна ацаніць веды.



**Кацярына Дземідовіч, у дэкрэтным адпачынку:**
– Больш выбар адзнак, калі дзесяцібальная сістэма. Я добра памятаю пераход ад пяцібальнай да дзясяцібальнай, калі была вучаніцай. Апошняя мне падабалася больш.



**Паліна Покель, вучаніца:**
– Я яшчэ толькі пайду у трэці клас і мне пачнуць ставіць адзнакі. Спадзяюся, што буду атрымліваць дзясяткі. Аднак мая мама кажа, што пяцібальная сістэма лепшая.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

## Чытайце праз тыдзень:

- У дзіцячы цэнтр "Надзея" прыехала не зусім звычайная каманда па мініфутболу. Папершае, гэта пяцікратныя чэмпіёны свету. Па-другое, каманда складаецца з інвалідаў па зроку і слыху.







● НАВІНЫ

## Аб'явілі конкурс на стварэнне лагатыпа фестывалю "Смаргонскія абаранкі"

**СМАРГОНЬ**

Смаргонскі райвыканкам аб'явіў адкрыты конкурс на распрацоўку лагатыпу фестывалю "Смаргонскія абаранкі". Лагатып павінны быць простым і цікавым для гледачоў.

Конкурс праводзіць у два этапы. Першы пачаўся ад 15 жніўня і працягнецца да 25 жніўня. Тут будзе адбывацца прыём, апрацоўка і адбор конкурсных прац.

Другі этап, фінальны, праводзіць ад 25 да 31 жніўня. Прыём заявак – да 25 жніўня.

Лепшая праца стане афіцыйным лагатыпам фестывалю.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Пробны перапіс насельніцтва правядуць у Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА**

Пробны перапіс насельніцтва правядуць у Маладзечне ад 2 да 13 кастрычніка, паведамляе БелТА.

У Белстаце патлумачылі, што для пробнага перапісу адпрацуюць тэхналогіі, якія будуць выкарыстоўваць у час правядзення перапісу насельніцтва ўсёй краіны ў 2019 годзе.

**Паводле БелТА.**

● ПРОСТА АНЕКДОТ

У дзіцячым садку я марыў пра школу, у школе – пра інстытут, у інстытуце – аб працы... Эх, і чаго мне ў дзіцячым садку не жылося?

***

– Вы хто?
– Я – жанчына вашай мары!
– Я не пра такую марыў.
– А здзейснілася такая!

***

– Што? Чакаеш прынца на белым "Лексусе"?
– Не. Галоўнае, каб чалавек быў добры. А якога колеру "Лексус", не важна.

***

Зайздрошчу свайму мужу. Так удала ажаніўся.

***

Летам кампетэнтнасць работнікаў бывае двух відаў: 1. Я не ведаю, я заўтра ў адпачынак сыходжу. 2. Я не ведаю, я толькі з адпачынку прыйшоў.



**Рэгіянальная газета. Rh.by** Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№34 (1165) 25.08.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 799. Падпісана ў друк у 9.00 24.08.2017.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.